# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1972
Сакавік - Красавік

Год XX
№ 2 (130)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1972 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

**ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:**

**У Задзіночаных Штатах:**

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

**У Канадзе:**

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

**У Нямеччыне:**

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XX** **March—April** **№ 2 (130)**
**1972**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XX САКАВІК—КРАСАВІК № 2 (130)

*а. Тамаш Подзява*

# Хрысціянская містэрыя



Увесь хрысьціянскі культ ёсьць ня чым іншым, як бязупынным сьвяткаваньнем Пасхі. А нават і кажны дзень літургічнага году ёсьць працягам і аднаўленьнем той Пасхі, якую Госпад так моцна жадаў спажываць з сваімі вучнямі, чакаючы на тую, якую меў вечна спажываць з імі ў нябесным валадарстве. А Пасха, якую мы сьвяткуем раз у год, уводзіць нас у перажываньне першых хрысьціянаў, якія, аглядаючыся назад, радасна клікалі: «Сапраўды Госпад уваскрос!» А, гледзячы ў будучыню, заклікалі: «Прыйдзі, Госпадзе Ісусе!» — «Прыходзь хутчэй!»

Хрысьціянства ня ёсьць толькі тэорыяй або ўспамінам. Гэта ёсьць акцыя, дзейнасьць і жыцьцё — ня толькі мінулае, а сучаснае, у якім зьмяшчаецца мінулае і прыбліжаецца будучае. І ў гэтым яно мае сваю таямнічасьць — тайну веры, бо хрысьціянства сцьвярджае, што мы цяпер можам прысвоіць сабе тое, што ўчыніў Хрыстос, каб атрымаць тое, што атрымаў Ён. Хрыстос абходзіў сваю Пасху ўжо блізка дзьве тысячы гадоў таму. А Пасха, якую мы сьвяткуем, дае нам усё тое, што Хрыстос учыніў. А тое, што чакае за гэтую лучнасьць з Хрыстом, ёсьць ягоная слава, якую Ён асягнуў, вечная Пасха, якую выбраныя сьвяткуюць у небе — вечны банкет ахвяраванага і ўслаўленага Ягнятка.

Хрыстос памёр за нас, не каб звольніць нас ад неабходнасьці сьмерці, але каб даць нам магчымасьць памерці — сьмерцяй старога грэшніка і ажыўленьнем новага чалавека, які больш ужо ня ўмірае! І Хрыстовая Пасха вучыць нас, што хрысьціянін мае памерці з Хрыстом, каб пасьля з Ім уваскрэснуць. Пры гэтым Пасха вучыць нас ня так, як Пасха Старога Запавету, якая толькі паказвала тое, чаго людзі яшчэ ня мелі. Бо нашая Пасха гэта — уваскросшы Хрыстос, Які памёр толькі раз, каб даць нам магчымасьць памерці ягонай сьмерцяй і зараз уваскрэснуць да ягонага жыцьця.

Для нас Пасха ня ёсьць простым успамінам гістарычнага факту: крыж і пусты гроб сапраўды зьяўляюцца перад намі. Але не на тое, каб Хрыстос яшчэ раз паўтарыў перад намі ўсё тое, што Ён учыніў раз на заўсёды, а толькі мы самі маемо ўзыйсьці на крыж, каб паўстаць з гробу (нашых грахоў). «Бог, кажа сьвяты Павал, нас — мёртвых учынкамі — ажывіў разам з Хрыстом, ласкаю вы збаўленьня, — і ўскрасіў з Ім і пасадзіў на месцах нябесных». (Эфэс. 2, 6).

Дык адносіны паміж Царквою і Хрыстом ня ёсьць толькі адносінамі жывых людзей да гістарычнае Асобы, як напр., да Сакрата, ані нават як адносіны паміж вучнямі да настаў-

ніка. Калі апосталы пашлі на ўвесь сьвет з Добрай Навіною, дык Дух Сьвяты даў ім моц і упэўненасьць, што «Ісус ёсьць ГОСПАДАМ!» І для апосталаў гэтае слова значыла больш, чым яно паказваецца нам цяпер, бо апосталы былі жыдамі. А слова «ГОСПАД» — па грэцку «КІРЫОС» гэта было жыдоўскае слова «АДОНАІ», якое ужывалася замест імя «ЯГВЭ — БОГ», якога нельга жыдам было ўжываць паза набажэнствам.

Для апосталаў Добрая Навіна палягала ў тым, што БОГ-ЧАЛАВЕК быў адначасна Другім Адамам. Як людзі насілі на сабе абраз першага Адама з зямлі, так цяпер яны пакліканы насіць абраз новага Адама з неба. Ахрышчаныя ў Хрыста, яны ў Хрыста апрануліся. І яны пазналі, што, калі хто ёсьць у Хрысьце, дык ён ужо ёсьць «новае стварэньне». «Я жыву, але жыву ўжо не як я, а толькі жыве ў ва мне Хрыстос». І гэтыя словы сьвятога Паўла — гэта голас усяе Хрыстовае Царквы пасьля Пасхі і пасьля сыходжаньня Духа Сьвятога. І гэта астаецца праўдай аж да канца сьвету!

І так Хрыстос для Царквы ня ёсьць толькі «гістарычнай Асобай», як для сьвецкіх гісторыкаў. І ў Царкве — гэта догмат веры, што Хрыстос ёсьць Галавой Цела, якое Царква творыць, — Галавой, якая дае Царкве жыцьцё і сьвятло. І Сын Божы таму стаўся Чалавекам, каб стаць «Тотальным Хрыстом», як гаварыў сьвяты Аўгустын. Гэта значыць, што Хрыстос, як Галава і мы, як члены творым адну цэласнасьць з Ім. Бо Ён дае нам усё (жыцьцё), а мы, атрымаўшы ад Яго ўсё, калі Яму што і даём, дак даём з ягонага дару. Жыцьцё ў Хрысьце — гэта ня ёсьць копія ці фото Хрыста. Жыцьцё Царквы — гэта ёсьць працяг і разьвіцьцё Хрыстовага жыцьця ў кажным з нас. І кажны чалавек мае па свойму прыносіць плады сьвятасьці і любві ў духу і ў пачуцьцях, якія ажыўлялі Самога Хрыста, калі Ён жыў на зямлі. Хрыстос праз тую Пасху, для якой прышоў на зямлю, выразіў у акце крыжа любоў да Айца ў паслушэнстве Яму і любоў да братоў у ва ўсім сваім жыцьці, — а гэтак і Царква выражае кажны год на Пасху ў вонкавых знаках Хрыстовую любоў, якая вышла з ягонага боку, як кроў і вада, каб праз таямніцы (сакраманты) перайсьці ў сэрцы людзей і стацца для іх вечным жыцьцём.

Гэтак, астаючыся нязьменнай, Галава (Хрыстос) бязупынна абнаўляе сваё Цела-Царкву, якая прыймае ўдзел у эўхарыстычным Банкеце ў Вялікі Чацьвер, усходзіць на крыж у Вялікую Пятніцу, кладзецца ў гроб, каб выйсьці з яго на трэці дзень . . .

Гэтак выглядае Пасхальная Містэрыя.

(Паводле кнігі «Пасхальная Містэрыя» Л. Буе).

---

*а. А. К.*

# Аб справядлівасьці на сьвеце

У канцы мінулага году адбыўся ў Ватыкане СЫНОД Біскупаў, на якім разважаліся справы сьвятарства і справядлівасьці на сьвеце. Аб сьвятарстве мы ўжо пісалі, дык пераходзім да думкі аб справядлівасьці.

*І. Праявы несправядлівасьці*

СЫНОД выявіў, што на сьвеце існуе шмат яшчэ несправядлівасьці у многіх галінах жыцьця, як у гаспадарцы і ў справах сацыяльных, палітычных, культурных і рэлігійных.

Пры цяперашняй такой высокай навуцы і тэхніцы здаецца, што павінна хапаць хлеба і прадуктаў. А тымчасам соткі мільёнаў людзей жывуць у нястачы, а нават паміраюць з голаду, калі багатыя краіны жывуць ня толькі ў дастатку, але і ў збытку дабра! $^3/_4$ часткі даходу трымае ў своаіх руках адна трэцяя частка насельніцтва зямлі! . . . А гэтая нядоля бедных яшчэ усьцяж павялічваецца, бо два мільярды людей бедных і галодных куды хутчэй размнажаюцца, чым адзін мільярд багатых! Дык даходзіць да таго, што насупраць аднаго мільярда людзей багатых зараз стане ўжо тры мільярды і больш галодных. Гэтая дыспрапорцыя так павялічваецца, што магчыма — у 2000 годзе насупраць 6-7 мільярдаў галодных людзей стане адзін ці паўтара мільярда багатых! . . Тады галодныя ня вынясуць такой дыспрапорцыі і захочуць адабраць дабро ад багатых. А калі і сапраўды адбяруць, то ўсёроўна яны не пабагацеюць, але, як шаранча, аб'ядуць усё ўсялякае дый самі астануцца далей беднымі й галоднымі: а ўжо ня будзе ў каго больш нічога адбіраць . . . Дык ці можна, так як рабілася дасюль, выкарыстоўваць беднату, каб

больш самым багацець? На Міласьць Божую, трэба рэвідаваць адносіны на сьвеце! Вучыць адсталыя народы, каб самі станавіліся на ногі, разьвівалі прадукцыю і багацелі разумна. Чалавецтва, каб ня згінуць марна, павінна тварыць згодуную сям'ю: падцягіваць адстаючых і дзяліцца дабром між усімі! Або — справядлівасьць, або — сьмерць! Гэта навука неаспрэчная для ўсяго чалавецтва!

Гэтулькі цяпер памысных умоваў, каб усе людзі і ўсе народы стварылі адну супольнасьць-сям'ю! Бо ўсе людзі з натуры — роўныя між сабою і роўныя чалавечай годнасьцю, як створэньні і дзеці аднаго Бога-Творцы і Айца Нябеснага. Дый так лёгка лучацца з сабою праз хуткую камунікацыю і праз сродкі грамадзкай сувязі, — радыё, тэлевізія, прэса і інш. А тымчасам бачыцца глыбокі крызыс і разьбіцьцё, замест салідарнасьці! На вялікі жаль, больш творыцца зла, чым дабра. Яшчэ ёсьць краіны — вялікія і магутныя, у якіх творыцца гвалт і гвалт над сумленьнем чалавека і народаў: вядзецца прасьлед рэлігіі, які сыстэматычна праводзіць улада і прымус да атэізму, асабліва ў выхаваньні дзяцей і моладзі!

І яшчэ многа людзей і народаў знаходзіцца ў зьняволеньні: пазбаўлены свабоды палітычнай, культурнай і эканамічнай ... А доказам гэтага шматлікія мільёны эмігрантаў і ўцекачоў, якія пакінулі свае краіны і дзяржавы — ці то каб шукаць хлеба, ці то каб ратаваць жыцьцё ад зьняволеньня і сьмерці ... І тымбольш гэта цяпер адчуваюць людзі, бо ў чалавецтве ўзбудзілася ясней, чым калісьці, патрэба годнасьці і правоў для ўсіх роўна.

*II. Абавязкі Царквы адносна справядлівасьці на сьвеце*

Праўда, Царква існуе для вечнага збаўленьня людзей і ня можа займацца дачаснымі судамі, якія належаць да ўлады сьвецкай. Аднак-жа Царква ня можа аставацца абыякавай адносна справядлівасьці між людзьмі і народамі. Хоць Царква ня дзеліць земляў і ня выдае законаў, што належыць да дзяржавы, аднак Царква мае абавязак даваць дырэктывы і асьцерагаць улады, каб не нарушалі справядлівасьці. Гэтак Царква пазытыўна прычыняецца да ладу і парадку ў грамадзтве, каб умацняць Божае Валадарства між людзмі, якім ёсьць Валадарства праўды і справядлівасьці, любові і супакою.

*III. Што Царква робіць, каб выканаць свой абавязак?*

1) Царква з Божага загаду мае абавязак прапаведваць Божае слова, у якім Сам Бог вучыць людзей праўды і справядлівасьці, і аб тым, што яе нарушае.

2) Царква адміструе сьвятыя Тайны (Сакраманты), праз якія Бог дае чалавеку сілу выбрацца з маральнага зла і так лучыць чалавека з Богам і з бліжнім, асабліва праз тайну споведзі і Эўхарыстыі. Спаўняючы гэтую місію, Царква выхоўвае людзей да справядлівасьці і да сьвятасьці. У рэлігійным узгадваньні Царква рупіцца аб тым, каб людзі жылі паводле сумленьня і разбуджае ў душах, асабліва дзяцей і моладзі, глыбокае і далікатнае пачуцьцё праўды і справядлівасьці, а такжа й любові між людзьмі.

3) Праз сваіх вернікаў і праз духоўную герархію Царква мае ўплыў на людзей, якія займаюць важныя становішчы, каб яны сваею ўладаю і законамі прычыняліся да поўнае справядлівасьці.

4) І Сынод моцна падкрэсьліў, што голас Царквы аб справядлівасьці на гэтулькі будзе чутны і прыняты на сьвеце, на колькі яна сама будзе ў сябе шанаваць свае права. Таму Царква павінна старацца каб адносіны ў ёй — між уладай і падданымі, між духавенствам і сьвецкімі і між кажным у Царкве наладжваліся ў духу праўды і справядлівасьці дый любові. А ў карыстаньні з дачаснага дабра маюць яны памятаць аб церпячых нястачу і галодных, мяркуючы свае патрэбы, дзяліцца з беднымі сваім кавалкам хлеба.

Дбаласьць аб справядлівасьць — гэта абавязак унівэрсальны, не абмежаны да аднэй якойсьці групы ці да аднаго народу; але ўсе людзі павінны пачувацца адказнымі за дабро, праўду і справядлівасьць на цэлым сьвеце. Каталікі маюць абавязак у гэтым супрацоўнічаць з іншымі веравызнаньнямі і таксама з няверуючымі, бо і сярод іх находзяцца людзі з поўным і глыбокім пачуцьцём справядлівасьці і ахвотныя працаваць для яе.

# З нашае мінуўшчыны

Падаём тут чатыры дакуманты ў беларускім тлумачэньні, якія адносяцца да ўжываньня беларускае мовы ў дадатковых набажэнствах рымскага абраду і ў казаньнях.

1. Ліст Я. Эм. Кардынала Рафаэля Мэрры дэль Валь з дня 13 кастрычніка 1906 г. да ўсіх біскупаў рымскага абраду, якіх дыяцэзіі знайходзіліся ў межах Расейскае Імпэрыі.

II. Ліст Я. Эм. Кардынала Рафаэля Мэрры дэль Валь з дня 29 чэрвеня 1907 г. да ўсіх Біскупаў рымскага абраду, якіх дыяцэзіі знайходзіліся ў межах Расейскае Імпэрыі.

III. Ліст айца Андрэя Цікоты, друйскага пробашча, да Віленскага Біскупа Юрага Матулевіча з дня 7 ліпня 1925 г.

IV. Ліст Віленскай Курыі, падпісаны Біскупам Юрым Матулевічам, адказ на ліст айца А. Цікоты, з дня 7 ліпня 1925 г. Гэты ліст Біскуп падпісаў у тым самым дню, калі была напісаная да яго просьба. Віленская Курыя пераслала яго ў Друю крыху пазьней: 30-га ліпня 1925 г.

Арыгіналы гэтых лістоў знайходзіліся перад другой сусьветнай вайной у Архіве Віленскай Курыі (лісты I і II такжа ў іншых Курыях). Аўтэнтычныя копіі ўсіх чатырох дакумантаў, пасьведчаныя подпісам айца Андрэя Цікоты з пячаткамі Друйскага Марыянскага Дому, зробленыя ў 1931 г., знаходзяцца ў Архіве Беларускай Бібліятэкі імя Фр. Скарыны ў Лёндане.

Лісты Я. Эм. Кардынала Мэрры дэль Валь былі перакладзеныя часткова на беларускую мову ў кніжцы кс. Ад. Станкевіча «Родная мова ў сьвятынях», Вільня 1929, бач. 71-72.

Рафаэль Мэрры дэль Валь радз. 10. X. 1865 г. у сям'і гішпанскага пасла ў Лёндане. У 1903 г. атрымаў годнасьць кардынала, а такжа быў назначаны сакратаром стану Папы Пія X і быў адказным за палітычную дзейнасьць Апостальскага Пасаду праз шмат гадоў. Памёр у Рыме 26. II. 1930.

Юры Матулевіч быў Біскупам Віленскай дыяцэзіі ў гадох 1918—1925. Ён ведамы са сваей прыхільнасьці да беларускага каталіцкага руху. Будучы адначасова генэралам Айцоў Марыянаў, ён паслаў айца Андрэя Цікоту ў Друю ў 1923 г., які пераняў ад кс. Антона Зенкевіча ў 1924 г. парахвію і быў да 1925 г. яе пробашчам. Біскуп Матулевіч, зрокшыся Віленскага пасаду, быў паднесены да годнасьці Архібіскупа і назначаны Апостальскім Візытатарам Летувы, дзе і памёр 27. I. 1927 г.

Айцец А. Цікота быў у Друі Супэрыёрам законнага Дому Айцоў Марыянаў, дырэктарам гімназыі да 1933 г. У гэтым годзе быў выбраны генэралам Марыянаў, а ў 1939 г. прыняў усходні абрад і з волі Апостальскага Пасаду, як Архімандрыт, кіраваў у Манджурыі ўсходняй каталіцкай епархіяй. 22. XII. 1948 быў арыштаваны кітайскімі камуністамі і перавезены ў Сібір у турму ў гор. Чыту, а пасьля бяз суду атрымаў кару 25 гадоў лягераў. У Сібіры памёр у апініі сьвятога 11. II. 1952.

I.

№ 19702.

Ваша Дастойнасьць.

Апостальскі Пасад, заўсёды руплівы аб дабро душ і вельмі пільны вартаўнік годных пашаны традыцыяў, у-ва ўсе часы меў звычай дазваляць, каб у гэтак званых дадатковых набажэнствах (г. значыць абвяшчаньне Божага слова, навучаньне катахізмаў, запытаньні пры ўдзеляньні хросту і жанімстве і ім падобныя) кажнаму народу можна было ўжываць сваю родную мову. Гэтак яно ў сапраўднасьці і было сярод палякаў, а сам Рымскі Пасад парупіўся захаваць той старадаўны звычай нядаўна выданым адказам праз Найвышэйшую Кангрэгацыю Сьвятога Аффіцыюм з дня 11 ліпня 1877 г.[1]

Цяпер-жа, калі у Расейскай Імпэрыі зьмяніліся рэлігійныя абставіны, калі кажны мае магчымасьць перайсьці ў Рымскую Царкву, лёгка можна прадбачыць, што некаторыя з паміж самых расейцаў пры Божай помачы прымуць каталіцкае веравызнаньне.

Таму, каб унікнуць на прышласьць якіхколечы двузначнасьцяў і дзеля перасьцярогі перад цяжкасьцямі, Яго Сьвятасьць уважаў патрэбным аб'явіць наступнае:

---

[1]) Сьвятая Кангрэгацыя Унівэрсальнай Інквізыцыі была заснаваная папай Паўлам III 1542 г. Мэтай яе было бараніць Царкву ад гарэзіяў. А ў 1908 Папа Пій X пераарганізаваў яе і зьмяніў назву на: «Сьвятая Кангрэгацыя Оффіцыюм». Нарэшце Папа Павал VI ў 1965 ізноў пераарганізаваў, выходзячы з прынцыпу, што лепш бараніць веру праз пашырэньне веры і назваў: «Сьвятая Кангрэгацыя Вывучэньня Веры». Да гэтай Кангрэгацыі належыць выдаваць апінію ў справах веры і абычаяў. Апінію Кангрэгацыі Папа можа прыняць і пацьвярдзіць, але можа і адкінуць.

Справа ўжываньня мовы ў дадатковых набажэнствах патолькі адносілася да веры, пакольки ў канцы XIX стагодзьдзя расейскі ўрад імкнуўся, праз увядзеньне расейскай мовы замест польскай, прыблізіць вернікаў ня толькі да Расеі, але й да праваслаўя.

Вышэй успомнены дакумант Кангрэгацыі Сьвятога Оффіцыюм ёсьць адказам вылучна дадзеным на спэцыяльнае пытаньне. А пытаньне было такое:

1° Ці ў дадатковым набажэнстве — як прынята яго называюць — замест польскай мовы, якая ад непамятных часаў у ўжываньні прынялася, можна ўжываць расейскай без дазволу Сьвятога Пасаду?

2° Ці Сьвяты Пасад такую замену на расейскую мову талераваў і ці мог-бы талераваць?

Сьвятая Кангрэгацыя на абодвы пытаньні адказала адмоўна.

Дык вось, калі ўспомнены адказ у тым часе не забараняў расейцам каталікам (калі-б такія былі) ужываць родную мову у гэтак званым дадатковым набажэнстве,[2]) тымбольш цяпер нельга ўважаць, што падобная забарона існуе, калі расейцам дазваляецца прыймаць каталіцкую веру. Таму Сьвяты Пасад не забараняе, каб у адказах пры хрышчэньні або ў часе шлюбу маладыя карысталіся расейскай мовай.[3])

Што датычыць абвяшчаньня Божага слова, катэхізацыі (навучаньня катахізму), малітваў, пабожных песьняў, наагул павінна ўжывацца тая мова, якая ёсьць роднай большай частцы жыхароў або прынамсі тэй групы, да якой належыць як уласнасьць сьвятыня.

Апрача таго, калі-б знайшоўся значны лік вернікаў, хоцьбы і меншы ў параўнаньні з іншымі, якія ўжываюць іншае мовы, каб і яны мелі ў сваей мове катэхізацыю, казаньні, а нават, калі-б гэтага вымагалі абставіны, няхай маюць у роднай мове публічныя малітвы і набожныя песьні. Калі-б аднак у пасобных выпадках паўсталі ў гэтай справе сумнівы і цяжкасьці, тады трэба зьвяртацца да Апостальскага Пасаду.[4])

Усё гэта дзеля ўзросту рэлігіі і дзеля дабра народаў, якія знаходзяцца ў Расейскай Імпэрыі, Папа пажадаў падаць да ведама, і я маю прыемнасьць паводле загаду Сьвятога Айца перадаць Вашай Дастойнасьці, каб усё гэта — калі здарыцца нагода — з усей пільнасьцю быў ласкаў праводзіць у жыцьцё ў сваей дыяцэзіі.

Тымчасам ахвотна карыстаю з нагоды, каб выказаць да Вас маю прыхільнасьць і маю табе адданасьць.

Р. Кард. Мэрры дэль Валь

Рым, дня 13 кастрычніка 1906.

II.

№ 24489

Ваша Дастойнасьць.

Ужо ў канцы мінулага году я ў сваім лісьце да мясцовых кіруючых Біскупаў, якія зьяўляюцца падуладнымі Расейскае Імпэрыі з дня 13 кастрычніка, паведаміў Вашую Міласьць аб тым, што Сьвяты Айцец быў ласкаў выясьніць адносна ўжываньня расейскай мовы ў гэтак званых дадатковых набажэнствах.

Усё аднак гэта, як кажнаму чытачу вышэй успомненага ліста павінна быць ясным, адносіцца вылучна да расейскае мовы ў сьціслым значэньні[5]) і да жыхароў тых правінцыяў, якія называюцца Вяліка-Расеяй.[6])

Значыць было сказана, што тыя, якія — ад часу калі гэта стала магчымым у Расейскай Імперэрыі перайшлі ў Рымскую Царкву — прымуць з Божай помаччу каталіцтва, ім не забараняецца адказам Сьвятой Кангрэгацыі Сьвятога Оффіцыюм паслугоўвацца роднай мовай у набажэнстве, што называецца дадатковым, пры захаваньні царкоўных прыпісаў.[7])

Цяпер-жа царскі ўрад высунуў новую падобную прапанову адносна жыхароў тых частак імпэрыі, якія завуцца Беларусь і Маларусь, каб і яны ў успомненым дадатковым набажэнстве маглі карыстацца сваім дыялектам.[8])

---

[2]) Выразна Кард. Мэрры дэль Валь тлумачыць, што, калі-б былі расейсцы каталікі, дык Апостальскі Пасад нічога ня меў-бы супраць расейскай мовы ў дадатковых набажэнствах. Аднак Апостальскі Пасад быў добра паінфармаваны і ведаў, што ў Беларусі каталікі былі або палякі, або апалячаныя беларусы, або і сьведамыя беларусы.

[3]) Некаторыя людзі думалі або й наўмысна тлумачылі, што Кангрэгацыя Сьв. Оффіцыюм дала адказ такі, быццам наагул расейскай мовы ніколі ня можна ўжываць у каталіцкім кульце.

[4]) Магло здарыцца, як яно і ў сапраўднасьці было, што ў Сібіры ці ў іншых месцах Расеі палякі, летувісы або беларусы будавалі ў цяжкіх умовах свае касьцёлы. Калі-б так здарылася, што яны былі-б сярод расейцаў каталікоў, то ўсёроўна — паводле думкі Апостальскага Пасаду — яны маюць права ўжываць сваю мову ў сваіх сьвятынях. Асабліва аказваецца шмат прыкладаў у Злучаных Штатах Амэрыкі, дзе нярэдка на аднэй вуліцы існуюць сьвятыні ірляндзкія, польскія і інш.

[5]) Глядзі заўвагу 2) і 3). У арыгінале сказана: „Ad linguam russicam proprie dictam".

[6]) У арыгінале сказана: „et ad incolas illarum provinciarum, quam Magnam Russiam appellant".

[7]) Наступны тэкст маемо ў кніжцы кс. Ад. Станкевіча «Родная мова ў сьвятынях», Вільня 1929, бач. 71-72. З невялікім удакладненьнем мы яго захоўваем.

[8]) У арыгінале: „sua dialecto uti possint". Кс. Ад. Станкевіч 1. с. тлумачыць: «маглі карыстацца сваім дыялектам (гутаркай)». Украіну тады называлі „Parva Russia", а іхнюю мову: „dialectus parva-russica".

У украінцаў фактычна ня было лацінскага (рымскага) абраду, але Рым быў недакладна інфармаваны і таму нароўні трактаваў украінцаў і беларусаў.

Аб тым, у якіх парахвіях мае быць ужываны беларускі і маларускі дыялект, трэба ўстанаўляць апіраючыся на волі самых жыхароў і то на выпадак, калі-б паўстала нязгода паміж духавенствам і вернікамі, справу перадаць найвышэйшаму суду Апостальскага Пасаду.

Аднак, пакуль Сьвяцейшы Пасад не падпіша дагавору з царскім урадам у гэтай справе, Папа жадае, каб кажны з Біскупаў Расейскае Імпэрыі выказаў сваю думку Сьвяцейшаму Пасаду.

Пры нагодзе выказваю Табе пачуцьці сваей шчырай пашаны і астаюся адданы Тваей Дастойнасьці.

Р. Кард. Мэрры дэль Валь

Рым, 29 чэрвеня 1907.

III.

№ 300.

Да Яго Эксцэленцыі.

Біскупа Віленскага Юрага Матулевіча,
у Вільні.

У друйскім парахвіяльным касьцеле ўжо ад даўнейшага часу ўстанавіўся наступны парадак казаньняў:

1⁰ Пасьля вучнёўскае Імшы (Літургіі), а гадз. 9 раніцай навука для школьных дзяцей па польску.

2⁰ У часе сумы[9]) казаньне па польску.

3⁹ Падчас нешпараў, маёвых набажэнтваў, у чэрвені і ў кастрычніку, казаньні па беларуску.

4⁹ Падчас фэстаў, сарака-гадзіннага набажэнства і рэкалекцыяў казаньні гаворацца ўперамешку па польску і па беларуску.

5⁰ Вёскі друйскае парахвіі маюць звычай адпраўляць набажэнствы маёвыя і ў месяцы чэрвені ў сябе пад крыжамі: на гэтыя набажэнствы часта запрашаюць сьвятароў, у такіх выпадках прамовы найчасьцей бываюць у беларускай мове.

Прашу Вашую Эксцэленцыю пацьвердзіць гэты парадак казаньняў.

Пакорны слуга Вашае Эксцэленцыі,

Кс. Андрэй Цікота, пробашч

Друя, дня 7 ліпня 1925.

IV.

№ 2769. Курыя Дыяцэзіяльная Віленская

30. VII. 1925.

У духу пастановы Канфэрэнцыі Біскупаў з дня 19 мая 1925 г. каб браць пад увагу з поўнаю прыхільнасьцю і справядлівасьцю духовыя патрэбы ўсіх вернікаў Рэчыпаспалітай Польскай бяз розьніцы нацыянальнасьці, прапанаваны парадак пацьвярджаем.

Юры, Біскуп

Вільня, дня 7 ліпня 1925 г.

[9]) Сумай было прынята называць у Вялікім Княжстве Літоўскім галоўную Літургію сьвяточную, якая адпраўлялася з большай урачыстасьцяй і ў пазьнейшым часе дня, часта з працэсіяй, а ў канцы з Суплікацыяй (Сьвяты Божа).

# Думкі багаслаўлёнага Максыміліяна Кольбэ

Хто гэта мог-бы дапусьціць, што Ты, о Божа, Бязьмежны, Вечны, узлюбіў мяне перад вякамі і больш чым перад вякамі, бо адкуль Ты ёсьць Бог, Ты мяне любіш заўсёды? . .

Хоць я быў нічым, Ты ўжо мяне любіў, о Божа сардэчны, Ты вывеў мяне з нябыту да існаваньня!

*

Хоць ня ўсе людзі любяць праўду, то аднак-жа яна адна толькі можа быць асновай трывалага шчасьця.

Гэта фальшывае прakananьне, што Сьвятыя ня былі да нас падобнымі. І яны адчувалі спакусы, і яны падалі і ўставалі, дый іх часта прыціскаў смутак і паралiжаваў заняпад духу. Але яны не давяралі сабе, а ўсю сваю надзею ўскладалі на Бога, пакорна жалелі за грахі і абмывалі душу ў Сакраманце Пакуты, — так што ўпадкі служылі ім як ступені да вышэйшай дасканаласьці.

Непарочная (Дзева Марыя) ёсьць апошняй граніцай паміж Богам а стварэньнем. Яна ёсьць верным абразом Божае дасканаласьці, Ягонай сьвятасьці.

*

Ня кожны можа стацца геніям, але дарога да сьвятасьці адчыненая перад усімі.

Трэба прыпамінаць сабе, што Бог нас узьлюбіў. Гэта найлепш пабуджае нас любіць Бога.

Поступ неабходны заўсёды. Калі апусьціш рукі, то ты ўжо адступаеш. Калі вяслуеш у верх ракі, дык трэба вяславаць бязупынна, бо іначай плынь сарве цябе назад. Такая натура чалавека, што зьяжджае ўніз, калі не перамагае сябе.

Ня трэба прывязвацца да заняткаў, да годнасьці, да ўраду свайго, ці да месца. Няхай кажны стараецца споўніць Божую волю і гэта ёсьць верх усяго найвышэйшага. Калі артысты выступаюць у тэатры і гэты прыбіраецца за манарха, іншы за жаўнера, а яшчэ іншы за паслугача, дык каторы з іх будзе найбольш паважаны? (вартасны»). Бяз сумніву той, каторы найлепш адыграе сваю ролю.

*

Кожны можа і павінен сабе гаварыць: «Я павінен стаць сьвятым і то найбольшым! Каб была найбольшая хвала Божая ў збаўленьні і найбольшая сьвятасьць мая і ўсіх, што ёсьць і будуць — праз Непарочную (Дзеву Марыю)! Усялякія сродкі, найнавейшыя вынаходы — ў машынах ці ў сыстемах працы, — няхай найперш служаць да асьвянчэньня душаў людзкіх- — праз Непарочную! Дык трэ аграднічыць найбольш уласныя патрэбы дый весьці найбольш убогае жыцьцё; але будзем ужываць самыя навачасныя сродкі. У аблатанай адзежы і чаравіках, але на самым навачасным самалёце, калі гэта будзе патрэбнае для збаўленьня ці асьвянчэньня большай колькасьці душаў — вось гэта будзе нашым ідэалам!

На ўсім сьвеце дзеіцца « н е ш т а ». Але нас, што аддаліся Непарочнай, што можа спаткаць хоць дзе-небудзь? Найбольш, што нам могуць адабраць — жыцьцё. (А што-ж больш?) . . .

---

*а. Язэп Рэшэць*

# І. СЬВЯТЫЯ

1) Перш чым гаварыць аб паасобных сьвятых, скажам некалькі слоў наагул, хто гэта сьвятыя, якія нашыя да іх адносіны, якая карысьць разважаць іхнае жыцьцё і якім спосабам трэба прыступаць да такой важнай справы.

Сьвятым называем таго, хто любіць Бога больш за ўсё і тую любоў праяўляе ў сваім жыцьці. А Бога любіць гэта знача аддацца яму бязмежна, непадзельна, шукаць усюды волі Божай, уважаючы сабе гэта за шчасьце.

У сьвятых якраз зыходзяцца і цесна лучацца воля людзкая і воля Божая, а згэтуль родзіцца ўзаемная любоў Бога і чалавека: Бога-бацькі і чалавека-дзіцяці.

Сьвятога называем так-жа чалавекам справядлівым, бо ён кожнаму аддае належнае: Богу ўсё, а сабе — бяз Бога — нічога! бо ўсё, што мае і чым сам ёсьць, сьвяты прыпісывае творчай сіле Бога і Ягонай дабраце, ласкавасьці Божага Сэрца. Гэтак любячы Бога і аддаючыся Яму зусім, чалавек сваім жыцьцём выражае поўную справядлівасьць. Значыць, сабе — бяз Бога — нічога, а ўсё — Богу! І хто-бы нарушыў гэтую норму, той перастае быць сьвятым.

Сьвяты — гэта жывы ідэал, жывы абраз узаемнай любові паміж людзьмі, супакою, братняй спагаднасьці, добрага, шчасьлівага сужыцьця народаў між сабою. Сьвяты — гэта найлепшы сем'янін, найкарыснейшы грамадзянін, сапраўдны прыяцель чалавека. Бо сьвяты любіць кожнага чалавека шчыра, значыць, ня шукаючы вырахаваньня, але ахвярна працуе для людзкога дабра. Так яно ёсьць, дый інакш і быць ня можа! Бо да чаго-ж імкнецца сьвяты ў сваіх адносінах да бліжняга? Ці ў сваім самалюбстве будзе шукаць асабістай карысьці з крыўдай бліжняга? Ніколі! Бо ў сваіх адносінах да людзей сьвятыя кіруюцца любоўю да Бога і бліжняга. З глыбокай любові да Бога сьвяты жадае і другіх пацягнуць да гэтай любові, увесьці ўсюды справядлівасьць, згоду, парадак, каб «прышло Божае валадарства на зямлі, як ёсьць у небе». Як-жа высокая тады годнасьць сьвятога, якая важная ягоная служба ў сьвеце!

Ня трэба затым думаць, што сьвяты — гэта чалавек адпаўшы ад людзкога жыцьця, каторы жыве здалёку ад людзей у сваіх фантазіях і ў нейкіх бескарысных мроях. Не, зусім не! Сьвяты з нейкага, сказаў-бы, духовага прымусу прагне і шукае лучнасьці, супольнасьці з людзмі. І хаця некатарыя людзі адыходзілі на пустыню, дык усёроўна жывой лучнасьці з людзкімі душамі ня перарывалі. Цікава, чым тлумачыцца тая дзейнасьць і той інтарэс сьвятога чалавека да людзей? А вось чым.

Кожны з нас з свайго ўласнага досьледу ведае, што чым большую прыемнасьць робім чалавеку другому, тым шчасьлівейшымі чуемся самі. Бо шчырая любоў уносіць у душу праўдзівае шчасьце.

А чым мы можым выказаць сваю любоў у адносінах да Бога? Ці, кажучы іначай, чым мы прычынім сабе найбольшае шчасьце? Вось разважаймо! Бог чалавека стварыў і Бог чалавека любіць і жадае яму шчасьця — абяцае яму неба. Аддаў людзям свайго Адзінароднага Сына і ягоную кроў на выкуп. А дзе-

ля таго нічога так ня прагне, як здабыць нашую любоў — нашае сэрца.

Вось чаму, аддаючыся Богу, робім Яму найбольшую прыемнасьць, а сабе зарабляем найбольшае шчасьце. Тая духовая радасьць гэтак мілая чалавеку, што сьв. Апостал Павал сьмела пытае: «Хто нас адлучыць ад любові Хрыстовай?» — Нішто на сьвеце! Бо ўсё іншае яму здавалася сьмяцьцём у параўнаньні з тым шчасьцем, якім аддыхала ягоная душа ў любові Бога.

Богу аддаёмся дваяка: гатоўнасьцяй і ахвярнасьцяй душы. Абрагам свайго сына Ізаака, хоць фактычна не забіў на ахвяру, усё-такі Бог прыняў гатоўнасьць ягонага сэрца замест ахвяры, бо бачыў шчырасьць адданай душы. Вось дзеля гэтага сьвятыя прагнулі аддаць Богу ўсё, а нават сваю кроў-жыцьцё за веру, прагнулі быць мучанікамі.

Пяройдзем цяпер да любові нашага бліжняга. Разважым: Бог любіць мяне гэтаксама як і кожнага чалавека. Можна сказаць, Бог мае такую самую прыемнасьць, калі аддаюся Яму я, ці хто іншы. Дык падобна, калі мой бліжні аддаецца Богу, гэта будзе радасьць для яго, як і для мяне. Гэтак абяўляецца сапраўдная лучнасьць, супольнасьць інтарэсаў — сувязь людзкіх душаў. Сваей малітвай, добрым словам і прыкладным жыцьцём пабуджаюць сьвятыя сваіх бліжніх да жыцьця з Богам, да той справядлівасьці, якая граніцыць са сьвятасьцяй душы, каб споўнілася нашая галоўная мэта»: «Богу — ўсё, а нам — бяз Бога — нічога!»

Ёсьць таксама і іншыя прычыны братняй любові паміж намі, але найбольш важная, найбольш магутная — гэта любоў да Бога. Як убачым далей, у жыцьці-апісаньні сьвятых, тая любоў тварыла сапраўды вялікія цуды.

Жыцьцё сьвятых — гэта прыгожая гісторыя любові Божай на зямлі ў сэрцах слабых людзей і жывы прыклад для нас.

2) Жывучы сярод маны гэтага сьвету, бачучы розныя праявы людзкога самалюбства, проста ня хочыцца верыць, каб маглі быць між гаротнымі дзяцьмі Адама такія чыстыя душы, што так любілі Бога і бліжняга — людзі, якіх мы называем сьвятымі. Бадай мог-бы хто падумаць, што сьвятасьць гэта ёсьць рэдкая асаблівасьць вызначаных Богам людзей: яны ад прыроды абдараваныя глыбокім розумам і маюць здольнасьць пранікаць у тайны духовага жыцьця. І як дарэмная ёсьць натуга стаць артыстам, паэтам таму, хто не мае прыроднай здольнасьці, так, відаць, ня кожнаму даступна і сьвятасьць. Вось-жа не! Што іншае са здольнасьцю прыроднай, а зусім што другое са сьвятасьцю. Сьвятасьць даступна кожнаму чалавеку, бо любіць Бог усіх і ўсім жадае збаўленьня і сьвятасьці. Залежа толькі ад вольнай волі чалавека, як любоў Божую прыняць, як яе захаваць і як ажывіць ёю ўсю сваю істоту. А ці гэта магчыма ў шэрым нашым жыцьці штодзённым? Няхай за нас адкажа сьв. Аўтустын: «Маглі тыя і гэныя, чаму ня можаш і ты, Аўгустыне?» Так пытае сам сябе, што з лёгкадумнага, нават грэшнага чалавека, стаў пасьля вялікім сьвятым.

Каб ня блукацца ў поцемках, адркрыем кнігу гісторыі. Там бачым, што сьвятых выяўляе адна рэч: не таленты, ня дзейнасьць грамадзкая ці палітычная, але адданасьць Богу і ахвярнасьць. Яны, як тыя сьвечкі, што запалены агнём любові Божай, згаралі да канца, даючы навакол сябе, цаной свайго жыцьця, надпрыроднае сьвятло і цяпло. У ліку сьвятых бачым людзей featureрознага веку і стану: ёсьць маладыя і старыя, багатыя і бедныя, вучоныя і просьценькія. І тая-ж гісторыя сьведчыць, што сьвятыя ў ва ўсіх часох выплывалі на паверхню хрысьціянскага жыцьця. А Найвышэйшая Духоўная Улада кладзе ўсьцяж і сяньня пячаць сьвятасьці, як афіцыяльны патэнт на жыцьцё тых, што шчасьліва пераплылі з Богам акіян сваей дачаснасьці і злучыліся з ім на векі.

Цікава было-б прасьледзіць, як асьцярожна і далікатна Ўлада займаецца гэтымі справамі. Памылковасьць тут выключана абсалютна, бо Сьв. Царква, упісываючы кандыдата ў каталёг сьвятых, завяршае кананічны працэс сваей непамыльнай павагай. Гэтакіх яўных сьвятых лічым каля 5-ці тысячаў, але колькі ёсьць і такіх, якіх вялікая слава акажацца толькі ў небе!

У жыцьці-апісаньні сьвятых мы шукаем не самых асноваў рэлігійнага жыцьця, бо гэтым займаецца спэцыяльная навука — тэалёгія, як хочым бачыць такія факты, што вольны чалавек умеў згадзіць сваю волю з воляй Божай. Мы тут бачым прыклады, гатовыя абразкі высокай вартасьці: чалавек сапраўды жыве з Богам, думае, працуе па Божаму, цярпіць дзеля Бога.

Быць сьвятым, гэта ёсьць найбольш цікавая, найбольш важная, высокая роля, якую чалавек можа і павінен адыграць у сваім дачасным жыцьці. Праз сьвятасьць чалавек выпаўняе праграму свайго жыцьця, якая ў аснаўных лініях ёсьць нам усім супольнай. Дык, значыць, у жыцьці сьвятых знаходзім сваё асабістае зацікаўленьне, бо тут мы бачым самі сябе, бачым у сьвятых якраз тое, што мы павінны самі споўніць і перажыць. Сьвятыя з'яўляюцца нашымі настаўнікамі: больш прыкладам, як словамі пабуджаюць нас ісьці іхнімі сьлядамі, жыцьцёвай дарогай, каб у лучнасьці з Богам асягнуць сваё высокае прызначэньне.

Праўда, можна тую праграму і самым выпаўніць, не канечна толькі прыглядацца жыцьцю сьвятых, бо маемо добры паказьнік у голасе сумленьня, у Хрыстовай навуцы-Эванэліі і наагул у Старым і асабліва у Новым Запавеце. Аднак ня менш трэба прызнаць і тое, што добры прыклад пераможна ўплывае на розум і волю чалавека і часта нам больш памагае, як навукі і прынукі. Што было-б, каб Хрыстос нам пакінуў толькі свае уставы і навукі, каб мы не бачылі на бачынах Эванэліі ягонага жыцьця? А нішто так моцна не адбіваецца ў нашай душы, як ахвяра Сына Божага на Кальварыі, аб чым Ён і сам гаварыў, што з крыжа пацягне ўсіх да сябе.

Сьвяты Бэнэдыкт, Францішак і другія згарнулі ля сябе гэтулькі таварышаў, а чым? ці толькі словам, ці самой навукай? Не! перадусім сваім прыкладам.

Словам, у жыцьці сьвятых даў нам Бог вялікую падмогу, каб выпаўніць праграму хрысьціянскага жыцьця. Сьвятыя нас вучаць, будзяць нашыя сілы, уліваюць у сэрца адвагу, каб мы ахвярна змагаліся з перашкодамі, каб сьцераглі здабытыя пазыцыі і верна трывалі ў службе Божай.

3) Цяпер некалькі слоў скажам, як насьледаваць сьвятых. Яны ішлі ў кляштары, яны выракаліся сьвету, доўга маліліся, сурова пасьцілі, крывава бічаваліся, мелі свае асаблівыя набожнасьці — дык ці-ж маю гэта рабіць і я, падумае нехта?

Перш-на-перш адзначым, што ня ўсё, што тут сказана, у роўнай меры тасуецца да кожнага сьвятога. Як не аднолькавыя характары людзкія і ўмовы ды абставіны жыцьця, гэтак і розныя бываюць спосабы Божай службы. А другое, трэба-ж помніць, што сьвятыя — гэта людзі вялікай ідэі: што-ж дзіўнога, калі ў ахвяру клалі няраз сапраўды багаты выкуп коштам прыроднага жыцьця і шчасьця на зямлі. Або-ж ня ведаем, што сьцежкі вялікіх людзей сьцелюцца ня кветкамі, а калючымі цернямі? Такія людзі, дзеля дарагой сабе ідэі, дзеля славы, працавалі днём-ночай, пераносілі розныя цяжкасьці, цярпеньня і паніжэньня, нават адракаліся сямейнага шчасьця . . .

А сьвятыя — гэта не якісь там фантасты ці сьмешныя дзівакі: яны добра ведалі, чаго ім было трэба. Яны разумелі, што стацца сьвятым — гэта значыць вырачыся сябе дзеля Бога, што іначай немагчыма быць годным таго Хрыста, каторы на крыжы праліў за нас кроў да апошняй кроплі. У ранах Укрыжаванага трэба схаваць усяго сябе: і розум, і волю, і сэрца і ўсе нашыя сілы. А калі ўпорыстая нашая натура бунтуецца, што-ж тады рабілі сьвятыя? Яны тады прымусам цягнулі сваю грэшную натуру на крыж, тасуючы і вострыя спосабы. Але-ж гэта ўсё зусім разумна і нармальна! Праўда, спосабы аднаго чалавека могуць быць ня зусім прыдатныя другому, але ў сьвятых якраз усё падыходзіць кожнаму ў меру. Уласна сьвятыя ўмелі знайсьці меру і вагу ў кожнай справе, жыць растаропна і тактоўна, цярпліва і прыкладна па людзку і па Божаму. Вось-жа зусім натуральна, каб мы, чытаючы аб сьвятых, не хапаліся за ўсё з берагу, неразважна, каб не закладалі сабе немагчымых пастановаў на ўсё жыцьцё. Нам трэба падбіраць сабе такую форму і постаць, якая пасуе да нашага характару і такія прыклады, якія зблізаны да нашага становішча. Гэтак мы здабудзем сабе добрага правадніка і вернага прыяцеля, у лучнасьці з каторым лёгка і басьпечна будзем імкнуцца на вышыню ідэалу хрысьціянскай сьвятасьці.

Нам, пакуль жывём, трэба ўсьцяж вучыцца. Але найважнейшая з навук ёсьць навука жыцьця, каб-жа не змарнаваць жыцьця! А гісторыю называюць настаўніцай чалавека, вучыцелькай народаў. Шмат добрага можамо навучыцца і ў гісторыі паасобных вялікіх душаў. Тымбольш да гэтага мае права гісторыя людзей сьвятых, дзе пазнаём, як узрастала душа нашага лепшага брата ў ласцы Боскай.

Браце мілы, «бяры і чытай!» А Божы Дух няхай ціхім натхненьнем распаліць у тваім сэрцы агонь і жар Божай любові, каб і ты мог, ідучы сьледам сьвятых, грунтавацца ў цнотах, асьвячацца і дайсьці да вечнага прыстанішча, дзе сьвятыя пяюць Богу «Гозанна!»

# II. СЬВЯТЫ АПОСТАЛ ЯН

Бываюць людзі з сваей прыроды такія добрыя, нічым не сапсутыя з дзяцінства, што ласка Божая ў іхных душах узрастае бяз перашкоды і відавочна. Гэтакае жыцьцё падобна да згоднай песьні, дзе двухнотная мэлёдыя — людзкой і Божай волі — лучыцца ў адзін прыгожы гімн любові, радасьці і шчасьця. Такім уласна быў Ян-Апостал.

Свае маладыя гады правёў звычайна, як сын працоўных бацькоў. Бацька меў лодкі на возеры Генэзарэт, у Галілеі, нанятых работнікаў, сеці і снасьці. Лавілі рыбу, сушылі яе на сонцы, прадавалі навакол — аж да Ерузолімы і гэтым жылі нябедна. Сыны Зэвэдэя, Якуб і Ян, былі ў бацькі падручнымі. І вось Ян, узгадаваны ў традыцыі жыдоўскай веры, спадзяваўся, што падыйшла пара зьявіцца Месыяшу, якога ўсе здаўна чакалі. Якраз да-

ведаліся, што над Іорданам зьявіўся вялікі прарок, Ян Хрысьціцель, які моцна гаворыць аб Мэсыяшу. Казалі, што Хрысьціцель зьяўляецца Папярэднікам Яго, а можа і ён сам ёсьць той Чаканы?

Гэты наш Ян (Зэвэдэяў) адразу прылучыўся да вучняў Хрысьціцеля. Відаць з гэтага, як ён цікавіўся гэтым мэсыянскім рухам. Калі-ж пабачыў Самога Хрыста і пачуў ад Хрысьціцеля, што Ён ёсьць «Агнец Божы», зараз-жа пайшоў за Ім усьлед, пытаючыся: — «Госпадзі, дзе жывеш?» Так Ян з Андрэям сталі першымі Хрыстовымі вучнямі.

Ян аднак яшчэ вярнуўся да бацькі і да сваей працы на возеры, але не на доўга. Калі-ж Ісус, праходзячы блізка возера, ўбачыў таго-ж Яна з Якубам братам, упадабаў іх і паклікаў абодвых прылучыцца да ліку апосталаў. Ян і Якуб, пакінуўшы бацьку і другіх пры лодках і сетках, безадкладна пайшлі за Госпадам. З гэтай пары Ян не пакідаў Вучыцеля ў ніякіх нагодах: ішоў за Ім усюды, не адступіў і на Кальварыі. Ведаем, што Ян стаўся найбольш любым вучнем: браў яго Ісус у некаторых важнейшых здарэньнях як сьведку: так Ян належыў да гэтай выбранай т р о й к і — Пётар, Якуб і Ян. На Апошняй Вячэры Хрыстос пазволіў Яну палажыць галаву на грудзях сваіх, і Яну, завешаны на крыжы, ўручыў сваю Матку пад апеку.

Спачатку Ян апавядаў Эвангэлію супольна з Апосталам Пятром, а пасьля, ўвайшоўшы ў гады, стаў незалежным працаўнікам, меў масу вучняў і прабываў найбольш у вялізным горадзе Эфэзе. Перажыў усіх Апосталаў і памёр, маючы больш 100 гадоў у канцы першага ці ў пачатку другога стагодзьдзя.

У апошніх гадох жыцьця вывезьлі яго ў Рым, дзе меўся быць замучаны за веру ў кіпучым алею, але цудоўна выйшаў з катла жывы і бяз ніякага калецтва. Тады саслалі яго на абтоку Патмос, дзе меў дзіўныя аб'яўленьні, якія сьпісаў у асобнай кнізе — «Апокаліпса». З гэтуль звольнены, вярнуўся ў горад Эфэз, скуль кіраваў Божай Царквою ў Малой Азіі. У Эфэзе і памёр.

Душа яго, усё жыцьцё адбіваецца быццам у люстры ў тых пісьмах, якія па сабе пакінуў. А напісаў слаўную Эванэлію (яе лічым чацьвёртаю), тры лісты да сваіх вернікаў і ўспомненае Аб'яўленьне-Апокаліпсіс.

Выходзячы з гэтага пункту, што Бог ёсьць л ю б о ў і што гэтая любоў праяўляецца ў стварэньні сьвету, а найбольш ў Адкупленьні праз Сына Божага, адвечнае Слова, што «сталася целам і прабывала між намі». Вось што гаворыць аб гэтым сьвяты Ян: — «Так Бог узьлюбіў сьвет, што аддаў Сына свайго адзінароднага, каб усякі, хто верыць у яго, ня згінуў, але меў вечнае жыцьцё».

Каб ня творчая Боская моц, нішто-бы не магло існаваць ні адной хвіліны: каб ня любоў таго-ж Бога, якую ён гэтак багата праявіў у сваім Сыне, усе-бы людзі вечна загінулі. Думка Апостала была зьвярнуць увагу ўсіх, што Хрыстос ёсьць нашае жыцьцё. Ён піша:

«Абвяшчаем вам гэтае вечнае жыцьце, якое было у Айца і аб'явілася нам . . . каторае мы бачылі сваімі вачыма і да чаго датыкаліся нашыя рукі. Хрыстос — гэта слава жыцьця і тым, што прынялі яго, даў сілу стацца Божымі дзяцьмі. Гэтакія ад Бога нарадзіліся і слушна могуць сказаць аб сабе: «Гляньце, якую любоў даў нам Айцец, што называемся Божымі дзяцьмі».

А жыцьцё — гэта і ёсьць ч а л а в е к, самая істота, нашая «Я!» Затым і цэніць чалавек жыцьцё як сябе самога.

Хрыстос, стаючыся нашым жыцьцём, зьяўляецца ўласнасьцю нашай істоты, творыць з намі адно супольнае. Стаючыся нашым жыцьцём, Хрыстос нас ставіць на вышэйшую ступень існаваньня, там дзе ўсё сьвятое, Божае, дзе пануе раскошная атмасфэра ласкі, любові дзяцей Божых.

А згэтуль выплывае, што чалавек можа мець у сабе дваякае жыцьцё: адно прыроднае, а другое звышпрыроднае. Прыроднае жыцьцё вынікае з таго складу нашай натуры, які аказаўся пры стварэньні чалавека ці аказываецца пры яго нараджэньні. Жыцьцё звышпрыроднае — гэта ўжо ня цела ажыўленае душой, але людзкая істота ажыўленая новым духам, духам ласкі, любові Божай. Дзякуючы гэтаму цудоўнаму ажыўленьню, чалавек, істота прыродная, перамяняецца ў зусім новае стварэньне, стаецца хрысьціянінам і мае жыцьцё шмат больш дасканалае ад папярэдняга. Праз стварэньне чалавек называў Бога сваім Тварцом; а цяпер называе яго сваім найлепшым Айцом.

Як душа ў прыродным разуменьні — гэта найбольшы наш скарб, у якім зьмяшчаецца бязьмежнае багацьце думкі, чуцьця і волі чалавека, так тым больш Хрыстос жывучы ў нашых сэрцах, ёсьць таксама скарбам, але ўжо найдаражэйшым за ўсё, бо праз яго асягаем права сыноў Божых і стаёмся ўласьнікамі таго багацьця і шчасьця, якім Сам Бог уладае ў Сьвятой Тройцы вечна.

Трэба зацеміць, што нашае надпрыроднае жыцьцё сваім парадкам дзеліцца на цяперашняе і загробнае: адно адменнае ад другога. Дзеля таго сьвяты Ян і кажа: — Цяпер мы дзеці Божыя, але яшчэ ня выявілася, чым мы будзем. Ведаем толькі, што калі выявіцца,

тады будзем падобныя да Яго (Айца), бо угледзім Яго так, як Ён ёсьць.

Тымчасам наракае Апостал, што людзі палюбілі цемру, бо ненавідзяць братоў сваіх, бо любяць сьвет і ўсё, што ў сьвеце. А ў гэтакіх няма любові Божай. Яны марнеюць у сваіх пажаданьнях, бо «сьвет мінае і пажаданьне яго, а хто выпаўняе волю Божую, той толькі трывае на векі».

Любячы Хрыста ўсім сэрцам, Ян прагне гарачым Хрыстовым пажаданьнем, каб і ўсе Яго гэтак любілі. «Жыцьцё — кажа — вам абвешчаем, каб і вы мелі лучнасьць з намі». І тут ён не фантаст, не паэт нейкай мутнай любові, — любоў ў яго апіраецца на цьвёрдых жыцьцёвых асновах. Яна загараецца ў людзкой душы праз ахвяру — з аднаго боку самога Хрыста на Кальварыі, а з другога — добрай волі чалавека. Адно і другое — справа зусім праўдзівая і вельмі цэнная. Праўда, Бог першы ўзлюбіў нас, аддаючы для нас і за нас Сына свайго Адзінароднага, але каб тая любоў запала ў нашае сэрца, каб там магла выкрасіць сьвятое і надпрыроднае жыцьцё, патрэбна з нашага боку ахвяра і адданасьць. Агонь гарыць у сьвечцы, бо сьвечка сама згарае і нікне. Сьвечка стаецца ахвярай і дае агню магчымасьць гарэць — падтрымлівае агонь. Гэтак і Божая любоў, каб магла жыць у нашай душы, дамагаецца ад нас пакоры, паслушэнства, адданасьці — а х в я р ы .

— Тая ёсьць любоў Божая — кажа Апостал — каб мы спаўнялі прыказаньні Яго, каб мы любілі адзін другога, любілі ня словам і языком, але справай і праўдаю, каб маглі за братоў палажыць душы свае . . .

А калі-б і здарылася няшчасьце адпасьці, «калі-б хто зграшыў, дык маемо заступніка перад Айцом Ісуса Хрыста: Ён ёсьць зьмілаваньнем за нашыя грахі».

Вось бачымо, што ўсюды ўва ўсім вымагаецца ахвяра, крыж. Шчасьлівы, хто зразумеў вартасьць крыжа, хто пакорным, самаахвярным сэрцам мог падыйсьці да крыжа, хто загарэўся ад крыжа агнём любові вечнай, за нас укрыжаванай, хто радасьцю захоплены сказаў сабе шчыра: — «Мне жыць ёсьць Хрыстос». У гэтакай душы Хрыстос праявіць усе свае ласкі і давядзе яе да самай крыніцы ўсяго быту, жыцьця і шчасьця.

О, Ты, каторы чыстай душой узьнёсься як арол у прасторы неба і сказаў у натхненьні: — На пачатку было Слова, а Слова было ў Бога . . . — Ты, каторы нявінным сэрцам заслужыў узяць пад апеку Найсьвяцейшую Дзеву Марыю . . . Ты — любы Апостал — спачываючы пры Сэрцы Сына Божага, што адважна стаяў пад Яго крыжам, заступіся прад Богам за нас грэшных і слабых!

---

# Думкі з кніжак

Аб Богу толькі адно мы можам ведаць, што Ён ёсьць тым, чым ня ёсьць мы. Адзіным абразом Яго ёсьць нашая мізэрнасьць (галеча). Чым больш яе разважаем, тым барджэй уяўляем Бога.

Грэх — гэта нішто іншае, як тое, што мы ня бачым сваей нястачы. Гэта ёсьць мізэрнасьць нясьведамая сябе і ў тым яна вінаватая.

Для чалавека багатага і магутнага сьведамасьць нястачы людзкой ёсьць штосьці цяжкое, бо ён блізка няўхільна схільны ўважаць сябе, што ён нешта (важнае)! Але цяжка з гэтым і бедняку, бо гэты таксама схільны ўважаць багатага і магутнага за штосьці важнае.

Не самая віна становіць сутнасьць цяжкога граху, але ступень сьвятла, прысутнага ў душы ў хвіліну, якая тады была, калі здарыўся грэх.

*

Ува ўсім гэта толькі ёсьць радаснае, што прыходзіць нам звонку, задарма і нечакана, як дарунак долі і без нашага стараньня. Падобна і сапраўднае дабро можа прыйсьці толькі звонку і яго ня зродзіць намаганьне ніколі. У кажным выпадку мы не патрапім учыніць чагосьці, што было-б лепшае ад нас самых.

Каб насьледаваць Божую Любоў, ніколі ня трэба прыбягаць да сілы. Адмаўляць Богу паслушэнства — гэта тое самае, што пярэчыць Яго існаваньню.

В е р а — гэта упэўненасьць, што міма неразлучнай блытаніны дабра і зла, з чаго збудаваны ёсьць наш сьвет, існуе галіна, у якой дабро родзіць толькі дабро, а зло — толькі зло.

Прызнаваць дабро дабром і выводзіць яго із зла — гэта грэх супраць Сьвятога Духу, які адпушчаны ня будзе.

Па праўдзе маё непаслушэнства ў адносінах да Бога ня мае ніякага значэньня, калі Бог ёсьць; але я ведаю аб гэтым толькі тады, калі аказваю Яму паслушэнства.

*Сімонэ Вэйль*

Падчас мес. студня, як кажны год, ад дня 18 да 25-га па ўсім сьвеце адбываліся публічныя малітвы ў інтэнцыі адзінства ў веры. Дый у многіх месцах і сьвятынях малітвы адбываліся супольныя-«экумэнічныя»: удзельнічалі каталікі, праваслаўныя, пратэстанты розных толкаў. Заўсёды паўтараецца ўлюблёная ўсімі Гасподняя малітва «Ойча наш...», якая адмаўляецца стоячы і аднагалосна. Гэтым ствараецца добрая атмасфэра для збліжэньня, узаемнага пазнаваньня і прыязнага дыялёгу. Трэба сапраўды дзякаваць Богу, што пад уплывам незабыўнага Папы Яна XXIII і ад часу II-га Ватыканскага Сабору ня толькі адыйшлі далоў рэлігійныя вонйы, але і заніклі спрэчкі, падазрэньні, вострыя тон у прэсе, узаемныя насьмешкі. Наступіла пагода ў размове, адносіны спрыяльныя, дыспуты рэчовыя, супольная праца навуковая ў справах Сьвятога Пісьма, у розьніцах дагматычных дый супольнасьць у працы харытатыўнай і ў іншых патрэбах чалавеццтва...

*

### ПАВАЛ VI і АТЭНАГОРАС I: АБМЕН ПІСЬМАМІ

У радыёвай прамове Кардынал Вільлебранс, Галава Сакратарыяту Адзінства Хрысьціянаў, расказаў пра важнейшыя экумэнічныя падзеі ў мінулым годзе: ён прысьвяціў асаблівую ўвагу абмену пісьмамі паміж Ватыканам а Канстантынопалем, значыць, між Цэрквамі Каталіцкай а Праваслаўнай.

Абодва бакі — Папа і Патрыярх — сьцьвярдзілі, што няма ніякай важнай розьніцы ў веры і няма прычыны, каб у Божай Службе хадзіць рознымі дарогамі!

Патрыярх піша, што абедзьве Цэрквы аднолькава вераць у Госпада Ісуса Хрыста, Бога-Чалавека. І што прызнаюць і прычашчаюцца ў тыхсамых Таінствах-Сакрамантах. На аўтарох каталіцкіх і праваслаўных — тая самая Эўхарыстыя і тая самая Літургія — толькі ў адменных абрадах, значыць, у іншай вонкавай форме. І прызнаецца тое самае сьвятарства, як і хрост і Мірапамазаньне (Конфірмацыя). Такое самае Разграшэньне — адпушчэньне грахоў у пакуце.

Падобна і Рымскі Папа, Павал VI-ы разьвівае тыя самыя думкі — ажно даходзіць да выніку, што да разлому і да разрыву між Цэрквамі, ці — лепш сказаць — паміж Адною Цэрквою — Адзінай і Хрыстовай — дайшло ня так дзеля розьніцаў у веры, як дзеля браку ў любові. Дык абодвы духоўныя зьверхнікі — Папа і Патрыярх павінны весьці далей працу над аб'яднаньнем Цэркваў, бо да гэтага іх пабуджае Сам Дух Сьвяты. І БОГ-ДУХ-СЬВЯТЫ даў ім глыбока зразумець, што існуючы разьдзел між Цэрквамі ёсьць грэхам, які супраціўляецца волі Хрыста-Госпада і любові Бога і бліжняга.

Дыялёг, які пад натхненьням Духа Сьвятога распачаўся братэрскім пацалункам у Ерусаліме ў 1958 годзе і які Патрыярх Атэнагар назваў «Дыялёгам Любові», павінен працягвацца далей — аж настане дзень, калі яны змотуць разам концэлебраваць Сьв. Літургію і піць Гасподнюю Кроў з аднае Чашы! Патрыярх сказаў, што гэта наступіць тады, калі абедзьве Цэрквы будуць прыгатаваныя.

*

### МІТРАПАЛІТ МЭЛІТОН У ПАПЫ

У часе малітваў пра адзінства ў Цэрквах наведаў Папу асабісты прадстаўнік Патрыярха Атэнагара Мітрапаліт Мэлітон з Хальцэдону. У падарку прывёз Папе прыгожую і вартасную кнігу «Томос Агапіс» — «Том Любові». У ёй памешчаны дакуманты, якія тычацца дыялёгу між





Царквою Каталіцкай і Праваслаўнай і апісаньне сустрэчаў Папы з Патрыярхам на працягу 12 гадоў. Папа, пераглядаючы яе, выявіў надзею, што гэтая кніга дапоўніцца апошняй бачынай, якая раскажа аб поўным аб'еднаньні Цэркваў.

На пачатку кнігі Патрыярх зьмясьціў характэрную дэдыкацыю:

«Папе Паўлу, Улюблёнаму і Дастойнаму, Старшаму Брату, Атэнагорас з Канстантынопаля ахвяроўвае гэтую Кнігу, якая зьмяшчае расказ аб пачатку і ўзросьце любові між Рымскай і Канстантынопальскай Цэрквамі з пажаданьнем і надзеяй, што Госпад дасьць нам Ласку напісаць апошні яе разьдзел на супольным аўтары Ягонай Крывёю», (гэта значыць, разам прычашчацца на знак поўнага аб'еднаньня між Цэрквамі).

Пасьля Папа разам з дастойным гасьцём браў удзел у набажэнстве — ў малітвах аб адзінстве хрысьціянаў у Лятэранскай Базыліцы. І Папа там пераказаў ад сябе і ад каталікоў прывітаньне Патрыярху і выявіў сардэчну радасьць і ўдзячнасьць за супрацу Патрыярха для злучэньня Цэркваў, а таксама і надзею, што супольная праца давядзе — пры Божай помачы — да пажаданага выніку.

А Мітрапаліт Мэлітон выказаў сваё шчасьце, што ўжо трэці раз як дэлегат свайго Патрыярха, сустракае Папу для прадаўжэньня дыялёгу між Цэрквамі. І падкрэсьліў, што цяпер дыялёг адбываецца ў духу любові і на аснове аднаўленага багаслоўя, як бывала даўней перад падзелам. І, зьвяртаючыся да Папы, закончыў: «Ваша Сьвятасьць! пасьля ўсяго гэтага няхай споўніцца Господняя Воля!» г. зн., хай настане адзінства!

*

## ПРАДСТАЎНІКІ РАСЕЙСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў ПАПЫ

У пачатку г. г. гасьціла ў Рыме, у Ватыкане ў Папы дэлегацыя ад Маскоўскага Патрыярха Пімена — Архібіскуп Філярэт, Рэктар Маскоўскай Акадэміі у Загорску. Гэта быў рэвізыт, бо ў прошлым годзе Кардынал Вільлебранс быў у Маскве, як дэлегат Папы для падпісаньня Міжнароднага Дагавору аб абмежаваньні збраеньняў. І пры гэтай нагодзе Кардынал быў у Маскоўскага Патрыярха. А пасьля наведаў Патрыярха генэрал Айцоў Езуітаў Аррупэ.

*

## ЯГО ЭМ. КАРДЫНАЛУ ЮСІПУ СЬЛІПОМУ 80 ГАДОЎ

З гэтае нагоды Папа напісаў да Дастойнага Юбілята павіншаваньне, у якім выявіў шчырае прызнаньне і глыбокую пашану да Ягонай вернасьці Царкве, аказанай падчас доўгай пакуты ў савецкіх лягерах і турмах. Пахваліў такжа Ягоную нястомную працу, поўную энтузіязму і энэргіі для дабра Божае Царквы.

Падчас юбілейнага сьвяткаваньня Кардынал высказаў, што многа церпіць з прычыны няўладжанай справы Украінскага Патрыярхату Царквы, на што яе вернікі бязумоўна заслужы-

лі, як Ён казаў, праліваючы ў Саветах «рэкі крыві за вернасьць Папе».

✳

Арцыбіскуп Велічкоўскі выйшаў з савецкіх турмаў і лягераў, дзе правёў 13 гадоў. На пач. лютага прыехаў у Рым і затрымаўся ў Кард. Сьліпога. Як савецкі ўрад ліквідаваў на Заходняй Украіне Грэка-Каталіцкую Царкву, тады Велічкоўскі разам з тысячамі сьвятароў быў зьняволены. Пасьля звольнены часова быў кансэкраваны Мітрап. Сьліпым на біскупа і заняўся арганізацыяй царкоўнага жыцьця ў Львове. Але быў ізноў зьняволены ў лягеры, дзе цярпеў аж дасюль.

✳

ПОЛЬШЧА: Біскупы заснавалі Камісію для размовы з урадам у справе пабудовы новых касьцёлаў, якіх патрабуецца нямеш 1000, але ўрад даў дазвол толькі на дваццаць!

✳

ПАДЗЕЛ ГАРАДЗКІХ ДЫЯЦЭЗІЯЎ. Вялізарная дыяцэзія ў Парыжы падзялілася на сем дыяцэзіяў; а ў Мадрыдзе ў Гішпаніі мае іх быць пяць. І гэта будуць самостойныя Біскупы, якія будуць зьбірацца для разважаньня агульных справаў у вялікіх гарадах.

✳

АФРЫКА: Біскупы ў Радэзіі бароняць правоў чорных людзей. А цяпер паднялі вялікі алярм, што праблема чорных не разьвіваецца ў духу справядлівасьці. Чорныя людзі і далей вылучаюцца з поўнага і роўнага з белымі ўдзелу ў палітычным, грамадзкім, рэлігійным і культурным жыцьці.

✳

## ГЕНЭРАЛЬНЫ САКРАТАР АБ'ЕДНАНЫХ НАЦЫЯЎ КУРТ ВАЛЬДГЭЙМ У ПАПЫ

Гэта была першая ягоная візыта ў Папы. Павал VI падзякаваў за гонар, які ён зрабіў Апостальскаму Пасаду. Гэтым паказаў Сакратар, што высока цэніць маральныя вартасьці, якімі хрысьціянства можа служыць у вырашэньні міжнародных праблемаў, як справа супакою і абарона правоў чалавека. Апостальскі Пасад з наказу Божага і як удзельнік Аб'еднаных Нацыяў абяцае супрацу з усею магчымасьцю ў гэтай галіне.

✳

## ДУХОЎНАЯ АПЕКА НАД ЦЫГАНАМІ І ІНШ. ВАНДРОЎНІКАМІ

Нядаўна адбыўся Зьезд Біскупаў у справе духоўнае апекі над цыганамі і інш. вандроўнікамі. Аказалася, што толькі ў Эўропе іх налічваецца да 6-ці мільёнаў! А цяпер яшчэ прыбываюць масы з Індыі і з Пакістану, якія рассыпаюцца па Эўропе. Для духоўнай апекі і пастырства над імі Царква патрабуе большага ліку спэцыяльных сьвятароў, якія павінны знаць мову і жыцьцё й патрэбы такога блудзячага народу. І гэта ўваходзіць у сфэру працы, якую вядзе Папская Камісія для Душпастырства сярод эмігрантаў і турыстаў.

✳

ФРАНЦЫЯ. МАРАЛЬНАЕ ЗАБРУДЖЭНЬНЕ: Камісія Біскупаў, прысьвячаная сямейным праблемам, апублікавала матар'ял, у якім алярмуе, што францускаму грамадзтву пагражае небясьпека маральнага заняпаду. Гэтае сапсуцьце выводзіцца найперш *з парнаграфіі,* якая сталася выгодным бізнэсам. «Мамона і Эрос» спрагліся разам і даводзяць грамадзтва да абсэсіі і да духовага нявольніцтва. Царква прызнае сэксуальны інстынкт у чалавека: ён ёсьць дабром сам у сабе, але людзі павінны валодаць і кантраляваць свае інстынкты і схільнасьці. А таму, што парнаграфія сталася прадпрыемствам, дык ужывае магутныя спосабы прапаганды, як радыё, тэлевізія, фільм, прэса. Дзеля таго ўсё грамадзтва павінна з парнаграфіяй змагацца — адзінкі, інстытуцыі, арганізацыі, а перад усімі Царква і дзяржава, якія маюць найбольшыя магчымасьці

✳

АМЭРЫКА: Паведамляюць, што з 400 праваслаўных парахвіяў у Злучаных Штатах 75 перайшлі ад старога каляндара на новы і будуць сьвяткаваць Каляды — замiж 7 студня — 25 сьнежня, як усе іншыя хрысьціяне-каталікі і пратэстанты.

✳

*СССР. Тады, калі савецкія ерархі (япіскапы) на загад з Масквы падчас сваіх падарожжаў у вольным сьвеце заяўляюць аб свабодзе рэлігіі ў Савецкім Саюзе, дык там прасьледаваньне рэлігіі ня спыняецца, а нават апошнім часам узмацняецца, як аб гэтым паведамляюць з Летувы. Асабліва прасьледуецца навучаньне дзяцей малітваў і Божага Закону.*

# З беларускага жыцьця

## ЛЕКЦЫІ БЕЛАРУСАВЕДЫ

У аўторак 8 лютага ў Лёндане а. А. Надсон прачытаў па ангельску даклад на тэму «Лаўрышаўскі манастыр і ягонае Евангельле (14 ст.)». Даклад быў ілюстраваны дыяпазытывамі. У аўторак 7 сакавіка Я. Д. япіскап Чэслаў Сіповіч гаварыў на тэму «Архімандрыт Андрэй Цікота (1891—1952) і яго месца ў беларускім каталіцкім адраджэньні».

Лекцыі былі часткаю шостага курсу беларусаведы, зарганізаванага Англа-беларускім таварыствам.

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВАЎ ЗА ЦАРКОЎНУЮ ЕДНАСЬЦЬ

З нагоды Тыдня малітваў за царкоўную еднасьць Я. Д. япіскап Чэслаў Сіповіч, у саслужэньні з а. Язэпам Гэрмановічам, адслужыў сьв. Літургію ў пятніцу 21 студзеня ў «Бромптон Оратары», адной з найбольш ведамых каталіцкіх цэркваў у Лёндане.

Айцец Рабэрт Тамушанскі наведаў у часе 22-23 студзеня настаўніцкі інстытут «Голы Трыніты энд Олл Сэйнтс» у Лідс, дзе ён адслужыў сьв. Літургію і меў даклад для студэнтаў на тэму «Беларуская духоўная літаратура».

## КНІЖНЫЯ РЭДКАСЬЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Беларуская бібліятэка ім. Францішка Скарыны ў Лёндане купіла 29 лютага на ліцытацыі «Новый Завет» выданы ў Кутэіне ў 1652 г. Кніга захавана ў даволі добрым стане і ў арыгінальным пераплёце. Тэкст на царкоўнаславянскай мове, але прысьвячаньне праваслаўнаму япіскапу Віцебскаму і Аршанскаму Язэпу Гарбацкаму, прадмова да чытачоў і камэнтары да тэксту напісаны па беларуску. У кнізе ёсьць шэсьць гравюр і некалькі заставак. Гравюры евангелістаў, як відаць з напісаў, зроблены ў Кутэіне ў 1651 годзе.

Кутэінскі «Новый Завет» з'яўляецца цікавым і каштоўным помнікам раньняга беларускага кнігадрукаваньня. Гэта аднак ня ёсьць найстарэйшая кніга ў Бібліятэцы ім. Францішка Скарыны. Нядаўна адзін ангельскі прыяцель падарыў Бібліятэцы кнігу Тэзэо Амброджыё «Інтродукцыё ін халдаікам лінгвам», выданую ў Павіі ў Італіі ў 1539 годзе. Кніга цікавая для беларусаў тым, што ў ёй ёсьць тэкст адной старонкі з Скарынавай «кнігі царстваў» у лацінскай транскрыпцыі.

У бібліятэцы ёсьць таксама многа першых выданьняў твораў беларускіх пісьменьнікаў, сярод іх «Шляхам жыцьця» Янкі Купалы (Пецярбург 1913) і «Дзьве душы» Максіма Гарэцкага (Вільня 1919).

## ЖУРНАЛ БЕЛАРУСКІХ СТУДЫЯЎ

Выйшаў з друку чарговы нумар «Журналу беларускіх студыяў» (Том II, № 3) на 1971 год, які выдаецца на ангельскай мове Англа-беларускім таварыствам. У нумары наступныя артыкулы: Г. Лімінг, «Форма і функцыя ў „Александрыі" Мянжынскага»; А. Б. МакМіллін, «Канспэкт і бібліяграфія беларускай літаратуры 19 стагоддзя»; Я. Запруднік, «Змаганьне за аўтаномію Беларусі ў Першай дзяржаўнай Думе (1906 г.)». Як заўсёды, у часапісе багатыя аддзелы рэцэнзіяў і Хронікі. Цана нумару 1 ангельскі фунт (2.50 ам. дал.).

# Пакутнік за праўду

Пасьвячаю Уладзімеру Букоўскаму

*Лжацы цябе аскаржылі ў ілжы*
*Па загаду Крамлёўскіх пілатаў —*
*Не распялі цябе на крыжы,*
*А зрабілі ахвяраю кратаў.*

*Іх улада дзяржыцца на лжы*
*На тэрроры Чэкістаўскіх катаў. —*
*Гэту праўду папробуй скажы,*
*То адправяць да дому вар'ятаў.*

*Ты за праўду цярпеў як Хрыстос*
*Ад антычных сваіх супастатаў:*
*Ты шмат гора і мук перанёс*
*Ад сучасных савецкіх пілатаў.*

*А яны на ўвесь сьвет настрылі нажы*
*І дурманяць людзей прапагандаю.*
*Ім, Крамлёўскім забойцам, не схаваць свае лжы —*
*Не закрыць ім яе лжывай «Праўдаю»!*

*І. Пралятарскі*

*а. Я. Г.:*

# Каін і Абэль

ПЕРШЫЯ СЫНЫ

*КАЗАЛА ЕВА так да мужа:*
*— О, як я рада — вельмі дужа:*
*На сьвеце першая жанчына —*
*Я нарадзіла табе сына! —*

*АДАМ:*
*— Я — муж, ты — жонка, сына маем:*
*Ён называцца будзе КАІН. —*

*ЕВА:*
*— Няхай і Каін, абы — сын:*
*Наш — родны, ён у нас адзін!*

*Абшару хопіць на зямлі:*
*Мы сына першага зайшлі,*
*Дык нельга часу марнаваць —*
*Другога будзем дай шукаць! .. —*

*Сынок другі ўраз нарадзіўся*
*Аж Каін на яго зьдзівіўся!*
*Той АБЭЛЬ быў, — Яго так звалі.*
*Расьлі, — да працы хутка сталі*
*І з бацькам ежу дабывалі . . .*

*

*КАІН*
*Сын сваркі-злосьці, не пакуты —*
*З малога — злы, заўзяты, люты —*
*Наўкола зоркім кідаў вокам,*
*Ён думаў — меркаваў глыбока:*

*— Бацькі мае прагнаны з раю —*
*З іх сваркі я ўсё добра знаю:*
*Былі шчасьлівыя, багаты, —*
*А чым-жа я тут вінаваты?*
*А есьці што? Шукай — хітры! —*
*Жывём мы горай чым зьвяры . . . —*

*— А, як у раі саграшылі,*
*Ім Бог затое даў па шыі!*
*Ну, нас — чацьвёра: трэба есьці*
*Мне трэ' сабраць ды ім прынесьці.*
*Ці-ж я дурны? Лепш зьем я сам,*
*А ім нічога і ня дам! —*

*Аднак-жа бацькі ён баяўся*
*І ў лесе ўсё здабыць стараўся . . .*

*У лес браў Каіна Адам:*
*Сын моцны быў, як бацька сам, —*
*Адважны, памацнік якраз:*
*Ён медзьвядзёў ламаў няраз!*

*Адам казаў: — Хоць сам ты дужы,*
*А ў лес ідзеш — будзь пры аружжы:*
*Насі на карку галаву,*
*Але ў руках мей булаву!*

*Або магутную дубіну,*
*Каб у баёх ты сам ня згінуў.*
*І ў абароне не здавайся! —*

*

*Са львом аднойчы у змаганьні*
*Ён атрымаў глыбокі раны*
*І то ледзь-ледзь яго уходаў,*
*Хоць і з вялікай сваей шкодай!*

*Ляжаў і брэдзіў у гарачцы —*
*Даў страху бацьку, жалю матцы:*
*Стагнаў як тур, як зубр той роў,*
*Але ў тры дні ўжо быў здароў!*

*Зьбіраў ён з голаду, з нуды*
*Гарэхі, ягады, грыбы,*
*А фрухты дый траву ўсяляку*
*Ён дабіраў паводле смаку.*

*Гарод сабе як згарадзіў,*
*Капаў там, сеяў дый садзіў:*
*А, як жылі шмат сот гадоў,*
*Дык меў гарод і сад гатоў!*

*

*АБЭЛЬ*
*Перш Каін быў сынок адзін,*
*Радзіўся АБЭЛЬ — другі сын:*
*Быў зграбны, гладкі, як анёлак,*
*А моцна сшыты, як з іголак!*
*А з неба Бог ласкава бачыў,*
*Што Абэль гадаваўся йначай. —*

*Адам і Ева спакарнелі*
*І злосьці, сваркі ўжо ня мелі:*
*Быў Абэль — сын пакуты й жалю.*
*Бацькі малітвы ў неба слалі*
*І рай пакорна ўспаміналі.*

*А Ева плакала ўжо мала*
*І гімны райскія сьпявала.*
*І Абэль з маткаю маліўся:*
*Сьпяваць прыгожа навучыўся,*
*Дык і Адам у групе часам*
*Ім падпяваў грымучым басам.*

*Аж птушкі слухалі — нямелі*
*Дый аніяк сьпяваць ня сьмелі.*
*І ўся прырода, як пачула,*
*Дык райскія ўспаміны снула,*
*Лісточкі ціха гаманілі,*
*Кусты маўчалі й траўкі нылі,*
*А кветкі сны цудоўны сьнілі . . .*

*Крывіўся Каін дый злаваў*
*Ці на гарод свой уцякаў!*
*З нікім па праўдзе ня дружыў —*
*Глыбока Абля ня любіў.*

*Ды Абэль за усім сачыў:*
*Сабак дзікіх двух прыручыў —*
*Аж з імі больш не разлучаўся!*
*То за авечкамі ганяўся,*
*Пакуль іх колькі не злавілі —*
*І так-і-гэтак прыручылі...*
*Было-ж з авечак мяса сьвежа,*
*Са скуры цёплая адзежа*
*І воўна хоць-бы да чаго*
*Дый малако йшчэ да таго!..*

*Стаў Абэль першым пастыром —*
*Сапраўдным стаў гаспадаром!*

*Прытым-жа Абэль быў пабожны,*
*Ціхі, прыкладны, асьцярожны:*
*Бацькі яго найбольш любілі*
*Дый з ім ахвотна гаманілі,*
*Любілі Абля і ўсе сёстры. —*

*А Каін меў характар востры:*
*Не гаманіў, а больш крычаў,*
*Работы згодна не канчаў,*
*А толькі сваркай, авантурай,*
*Або пагрозай, нават бурай!*
*Зайздросьціў брату у ва ўсім*
*Дый вокам пaглядаў крывым...*

✳

*АХВЯРА*

*А Каін жыў ня так, як трэба —*
*Аж Бог яму сказаў раз з неба:*
*— О, Каін! Ці-ж ты неразумны?*
*Чаму ты ходзіш такі сумны?*
*Спусьціў галоўку, зьвесіў нос,*
*Бо грэх твой у душы узрос.*
*Калі грахі далоў адкінеш,*
*Тады твой смутак разам згіне!*

*А Каін галавой матаў*
*І Богу нешта марматаў,*
*Але бяз толку, без развагі —*
*падобна да шалёнай зьвягі...*

*Прыйшоў ім час ахвяру скласьці —*
*І ад няшчасьця,*
*Ад напасьці —*
*А для малітвы і набажэнства —*
*Каб Бог ім даў багаславенства!..*

*А ў Каіна душа благая,*
*Дык і ахвяра ўся такая:*
*Аўтар уладзіў няпрыгожы,*
*Плады прынёс зусім нягожы,*
*Дык і малітва — ў паняверцы —*
*Ня выплывала з душы й сэрца. —*

*Маліўся Абэль вельмі рады —*
*Вясёлы — бяз ніякай здрады:*
*Ён клаў ахвяру напаўнейшу —*
*Авечку саму найтлусьцейшу.*
*Аўтар меў зложаны прыгожа,*
*Дык і малітва была Божа!*

*Ахвяру Бог прыняў, як бачыў*
*І вонках гэта ўраз адзначыў:*
*У Абля дым пайшоў да неба —*
*Спакойна, роўна, як патрэба...*

*Дым Каіна зьмяёй круціўся —*
*Ля аўтара наўкол абвіўся:*
*Ісьці ў гару ня быў ахвочы*
*І Каіну лез проста ў вочы!*
*Аж Каін сьцяміў, што ўсё значыць:*
*Прыняць ахвяры Бог не рачыць. —*
*Таму ён горш астаўся сумны*
*Дый аж шалеў, як неразумны!*

✳

СТАРШЫ БРАТ — ЗАБОЙЦА!

*Прыйшла на Абля злая доля,*
*Брат кажа: — Ну, ідзём у поле! —*
*— Па што ісьці? — ён ня спытаўся —*
*Паслушна старшаму паддаўся.*
*А старшы брат усей парою*
*Брадзіў з сваею булавою:*
*Ён страшна булаву любіў*
*І ўчора мядзьведзя забіў:*
*Як стукнуў ёй па галаве,*
*Дык покнула на часткі дзьве!*
*Як кроў лілася, смагла піў*
*І ўмазаўся — так кроў любіў!*

*Так з Аблем выйшлі ў поле чыста,*
*Дзе ўся прырода урачыста*
*У поўным сонцы волю чула —*
*Свой плашч цудоўны разьвярнула,*
*Дзе краскі расьцьвілі багата:*
*Была вясна — ў прыродзе сьвята!*

*Сьпявалі птушкі гімны раньні —*
*Зямлі і небу прывітаньне —*
*Аж Абэль, што з прыродай зжыўся,*
*У хор агульны прылучыўся*
*І засьпяваў зваротку: «Слава»,*
*Што Ева часта так сьпявала...*

*— Вялікі Божа, Табе слава!*
*Што Ты стварыў нас так ласкава*
*І даў нам сьвет такі цудоўны*
*Чароўных кветак вечна поўны... —*

*А рэха голас падхапіла*
*І па узгорках скрозь насіла —*
*Па полі ўздоўж і ўшыр далёка*
*І запускала ў лес глыбока...*

*Малодшы песьню ўсё сьпяваў,*
*— А старшы палку ўсё сьціскаў!*
*Ласкава песьню слухаў Бог,*
*А Каін рук стрымаць ня мог!*

*У неба Абэль вочы ўзьняў*
*І так захоплены стаяў:*
*Аж сэрца радасна так біла,*
*Душа да Бога гаманіла...*

*А сэрца Каіна аж млела*
*І злосьць раз'юшана кіпела:*
*Падняўшы раптам булаву,*
*Разьбіў нявінну галаву!*

*Аж брызнула жывая кроў!*
*А Каін выў, крычаў — аж роў:*
*— Я — старшы брат! Ці-ж ты ня знаў, —*
*Ты мне пашаны не даваў?! —*

*Хацеў перш губы прылажыць*
*І братняе крыві папіць —*
*Аж адвярнуўся — кроў плыла —*
*Зямля яе піла — піла!..*

*Так булаву ў крыві як кінуў,*
*Крычаў: — Цяпер я сам загінуў! —*

*

СТАРШЫ БРАТ — ПРАКЛЯТЫ!

*Ішоў*
*Дамоў,*
*А сэрца ныла:*
*Сьляза цякла — агнём паліла...*

*А Бог якраз яго пытае:*
*— Дзе брат твой, Абэль, ці ты знаеш? —*

*Аж ён сказаў: — Ну, я не знаю*
*І не скажу — не разгадаю!*
*Пайшоў у поле — там ён зьнік, —*
*Ці-ж я ягоны вартаўнік ? —*

*А Бог казаў: — Ты што зрабіў?*
*Ты брата меншага забіў;*
*А пах крыві, што ты разьліў,*
*Да неба — да Мяне прыплыў. —*

*Пракляты будзеш чалавек*
*На доўгі — на няшчасны век!*
*І ўся праклятая зямля,*
*Што кроў нявінную піла! —*
*І пад тваей камандай людзі*
*Дарэмна працаваць тут будуць —*
*Аж створыцца на ёй пустыня*
*І плён на ёй навек загіне. —*
*А труд твой стане ўвесь бясплодны,*
*Каб род твой вечна быў галодны!... —*

*Дый ён казаў: — Грызе сумленьне —*
*Мой грэх ня мае адпушчэньня!..*
*Калі мяне адсюль зганяеш*
*Дый на блуканьне асуджаеш,*
*Тады пайду, заплюшчу вочы —*
*Брадзягай буду сярод ночы:*
*Айчыны я зусім не маю —*
*Заб'е мяне, хто напаткае!..*

*А Бог сказаў: — Таго ня будзе —*
*За Каіна адкажуць людзі:*
*Хто з Каінам захоча біцца,*
*Таму ў сямёрку адамсьціцца! —*

*Дык Бог так Каіна адзначыў,*
*Каб кажны, хто спаткаў, той бачыў,*
*Што гэты К А І Н — вось які —*
*Аж не пасьмеў падняць рукі!*

*Казалі ЛЮДЗІ:*
*— Кляймо на лобе мае Божа,*
*Як месяц-серп, пячаць варожа,*
*Што, як заходзіць, чырванее*
*І ў цёмных хмарах прамянее. —*
*Знак «брата старшага» забойчы —*
*Ганебны і пракляты тройчы! —*

*Казалі ІНШЫ: — Ў яго вочы*
*Дзікія, страшныя, як смочы,*
*Што, як ён гляне, хоць-бы мала,*
*Дык чалавека ў жах кідала!*

*Казалі бабы: — А гаворка*
*Як хрэн, як рэдзька, дужа горка —*
*Чужацкая і скрозь адменна —*
*Гучыць, скрыгоча, страшна дрэнна!*

*Як Каін ад сваіх сарваўся,*
*У прочкі дзесь з сям'ёй падаўся.*
*Ад Бога Каін адыйшоў —*
*На Нордзе воддаль кут знайшоў:*
*Напрамак на паўноч ад раю,*
*Куды? Ніхто таго не знае!..*

*Сам Каін працаваў ганебна,*
*Не траціў слова непатрэбна;*
*Сам'я ад раньня гаравала,*
*Аднак пажытку было мала:*

*Зямля была чамусь няўдзячна*
*І ежа, як палын нясмачна;*
*Адзежка бедная, благая,*
*Скацінка дрэнная, худая...*

*А хоць рабілі ўсё старанна,*
*Навонках выглядала марна:*
*Бяз Бога ўсе жылі, як быдла,*
*Дык і жыцьцё самым абрыдла!*

*

ПАТОМКІ

*Патомства Каіна — ліхое*
*Размножылась. Дый не такое.*
*Як Бог хацеў, як меў увагу,*
*Каб Абэлю даць перавагу.*
*Але нячысьцік — злая сіла*
*Адразу Абэля скасіла!*

*Люцыпар той — праклятьі — мусіць*
*Патрапіў Каіна спакусіць?*
*Што Еву ў раі зьвёў з дарогі*
*На грэшныя шляхі — разлогі ... —*
*Тут пыха-зайздрасьць — ўся прычына,*
*Што саграшыла перш жанчына.*
*І на Адама прышла згуба —*
*Праз злосьць і пыху Бэльзэбуба!*

*А Ева Абэля любіла:*
*Калі-ж яго ўзяла магіла,*
*Дык памяць сына ёй нямала*
*Гарачых сьлёзаў выклікала ...*

*Іх зараз Бог багаславіў —*
*На радасьць, шчасьце і на зьдзіў:*
*Сынок радзіўся — такі мілы,*
*Якбы тойсамы ўстаў з магілы! —*
*Прыгожы, стройны і аздобны —*
*Да Абэля сам-раз падобны:*
*Як аб'явіўся ён на сьвет,*
*Яго назвала матка « С Э Т ».*

*Казала ЕВА:*
*— Бог даў мне зараз нова зерне:*
*Ён Абэля мне памяць верне,*
*Якога не магу забыцца —*
*Аж пакуль сэрца будзе біцца!*
*Такая непамерна страта —*
*Праз старшага — забойцу — брата! —*

*

*Багаславіў Бог лета-ў-лета*
*Унукаў і праўнукаў Сэта*
*«Гігантамі» іх звалі самі,*
*А також «Божымі сынамі».*

*На жаль, як гэта магло стацца,*
*Што людзі пачалі мяшацца —*
*Патомкі Каіна з сьвятымі*
*І самі лепшыя з благімі —*
*Так сталі больш і горш псавацца! ..*

*А жылі людзі той парою*
*Гадоў па дзевяцьсот з гарою.*

*Дык Бог сказаў: — Дам чалавеку*
*Гадоў сто дваццаць яго веку!*
*І людзі сталі — ў знак пакуты —*
*Замест гігантаў — ліліпуты!*
*Яны разьмяклі, аслабелі —*
*Больш страху, чым адвагі мелі.*

*А дух разьбіўся на кавалкі:*
*Стаў чалавек да злога палкі*
*Грахі-распуста, розна сьмецьце,*
*Як чэрві множыліся на сьвеце —*
*Аж Бог, (які цярплівы быў!),*
*Жалеў нат, што людзтва стварыў! ..*
*Так як шаранча у прыродзе,*
*Што па траве, па збожжы бродзе,*
*Дый нішчыць-косіць-пажырае —*
*Пустыню толькі пакідае!*

*Так грэх — найгоршая зараза —*
*Горш чым халера ці праказа —*
*Дабро касуе, а зло творыць,*
*Пакуль людзтва на сьмерць заморыць!*

*Грахоў няшчасна перамога*
*Дый панаваньне духа злога —*
*Так на сусьвеце узрастала —*
*Людзкія душы абыймала —*
*Аж было трэба змыць адразу*
*І грэх з людзьмі і ўсю заразу!*

*Была такая вось прычына*
*Патопу страшная хвіліна ...*

Лёндан. 15. II. 1971
21. I. 1972

---

## ФРАНЦЫЯ — ПАРЫЖ: ВЕСТКІ З КІТАЮ

Пэкін. Вуліцы ў ночы: Самакаты без асьвятленьня — ані пешых, ані паліцыі ня было. Самалёт спусьціўся ў Шангаі. Кітайцы ў куртках, маладыя ўсьміхаюцца. Кантроль пашпартаў і лекарскіх картачак. Наагул спакойна і ветліва. Служба і паліцыя ўсміхаюцца, ведаюць свае абавязкі і па некалькі слоў гавораць па ангельску. Дзяўчына з чырвонай павязкай на рукаве падае фармуляр, на якім я павінен падаць свае гадзіньнікі, каштоўныя рэчы, фото, транзыстары і залатыя прадметы, што маю з сабой.

Чакаю, што скажа адчыніць таўсты партфэль з кніжкамі й газэтамі. У Празе, Варшаве й Маскве ўсё гэта старанна кантралявалі дый часта канфіскавалі. Але ў Кітаі гэтага не глядзяць. І ня трэба адчыняць чамаданаў.

Мне даюць цыдулку на гарачае сьнеданьне на аэрапорце. Прыслуга ў белым хутка прыносіць амлет са смажанай бульбай, піроЖнае і мінэральную ваду. I ўсё робіцца з поўным спакоем — аднолькава чужынцам і сваім. На сьцяне агромністы партрэт Мао і меншыя другіх — «сьвятых марксістаў», якія бачуцца ўсюды — па фабрыках, у школах, готэлях і магазынах: Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін, якога ў Кітаі вельмі шануюць.

Самалёт з Шангаю ў Пэкін спазьніўся на 5 гадзін: эўрапэйцы нэрвуюцца, а кітайцы спакойныя. У Пэкіне мяне спатыкае мой перакладчык з кіт. на французкі: бярэ мой багаж і паперы. I там вялікі партрэт Мао і напісы па ангельску і па французку; а па расейску ўжо сьцёртыя. Надпісы супраць Злучаных Штатаў («імпэр'ялісты-сабакі») — сьцёртыя. Усюды падаюць кніжачкі чырвоныя Мао: «Бярыце — яны вашыя!»

У Пэкіне ўбачыў цяжкую працу кітайцаў — мужчын і жанчын. У цёмную ноч бачыў цэлыя чарады вазоў натружаных, а ля іх абматаныя фігуры кітайцаў ішлі ля вазоў: малыя мангольскія конікі, мулы, аслы, запрэжаныя і цягнуць гэтыя вазы, поўныя гародніны, збожжа і мяшкоў з цэмэнтам. А гэта селяне прывозяць у сталіцу правізію начамі.

*

Першая гадзіна пасьля паўночы: ані людзей, ані паліцыі! Бо горад сьпіць. Прачнуцца перад зарою, як загрыміць музыка й песьня «Інтэрнацыянал!» У гатэлі спакой, усё падаецца хутка і ветліва, з усьмешкай. На вуліцы я еду ў таксі; але там цэлы рой самакатаў (ровэраў). На тратуарах маса народу, але ніхто не сьпяшаецца. Адзетыя цёпла, пануе колер чорны, цёмна-сіні, блакітны, ваенны, буры і шэры. А дзеці адзетыя страката.

9-ці і 10-ці годкі машыруюць калёнамі ў тры рады з чырвонымі сьцяжкамі і з партрэтам Мао наперадзе. Сьпяваюць і выглядаюць — здаволеныя. Не бачыў я галодных і вынішчаных.

У Пэкіне шмат тавару, жыўнасьці, адзежы і рознай драбязы. I зімой фрукты прадаюцца: мандарынкі, бананы, яблыкі і інш. Сьвежая салата і інш. зеляніна. У параўнаньні да заработнай платы прадукты не дарагія. Ніякіх чэргаў-хвастоў няма!

*Мішэль Гордэ*
«France-Soir»

# На кніжнай паліцы

*Я. Н. Мараш, Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). «Издат Вышэйшая школа», Минск, стр. 271.*

Ня ведаючы зьместу кнігі цяжка дагадацца, што аўтар мае на думцы, калі называе сваю працу: «Ватыкан і каталіцкая царква ў Беларусі»? Тэма вельмі цікавая і каб яе патрактаваць сьцісла і навукова, шмат дало-б сьвятла на нашу мінуўшчыну. Мараш углыбіўся ў навуковую апаратуру. Ён знае архіўныя матар'ялы віленскіх бібліятэкаў, ён прыводзіць ведамых старэйшых аўтараў (Тэйнэр, Левіцкі, Курчэўскі і інш.), а такжа навейшых (Гэдэман, Охманьскі і ін.), якія пісалі аб рэлігійных адносінах на Беларусі.

Хутка аднак-жа можна праканацца, што для Мараша каталіцтва на Беларусі — ня важна ў якой форме: бізантыйська-славянскай ці лацінскай — усё палітыка Ватыкану! Каб прасьлядзіць гэтую «палітыку», Мараш паказвае стан віленскай дыяцэзіі, а такжа закранае Берасьцейскую Вунію (1596) і вуніяцкую Царкву.

Віленская дыяцэзія да часу ўтварэньня царыцай Кацярынай II Магілёўскай архідыяцэзіі (1782), а пасьля Мінскай (1798), абыймала ўсю Беларусь.

Мараш падае даволі шмат розных статыстычных дадзеных і розныя схэмы. Можна іх прыняць, хаця і вымагаюць яшчэ больш акуратнай праверкі.

Крыху варта затрымацца над імі.

I так у гадох 1669 і 1744 паводле Мараша віленская дыяцэзія налічывала 26 дэканатаў і 410 касьцёлаў; на пачатку XIX стаг. было у той самай дыяцэзіі 694 касьцёлы. У Беларусі існавала такжа ў XVI—XVIII стаг. 18 мужчынскіх законаў, менавіта: езуіты, бэрнардыны, дамініканцы, францішкане, кармэліты, бэнэдыктынцы, лятэранскія канонікі, цыстэрсы, місіянэры, піяры, рохіты, марыяны, картузы, аўгустыяны, камэдулы, рэфарматы, трынітары і боніфратры. I сем жаночых законаў: дамініканкі, бэрнардынкі, кармэлітанкі, цыстрэрныянкі, мар'явіткі, брыгідкі, бэнэдыктынкі.

Наймагутнейшыя былі езуіты, якія мелі ў Беларусі 79 цэнтраў, 10 калегіяў дый іншыя школы і ўстановы.

Аўтар апісвае даволі дэтальна стан матэрыяльны віленскай дыяцэзіі і розных законаў. На бач. 150 знаходзім табліцу царкоўных дымоў (адзін дым у сярэднім меў 6,5 асобаў) у Вял. Кн. Літоўскім. I так падаецца, што ў 1790 г. усіх царкоўных дымоў у горадзе і па вёсках было 50.274.

Усе ім пададзеныя статыстыкі маюць сьведчыць, аб магутнасьці Каталіцкай Царквы ў Беларусі, якая імкнулася паняволіць як найбольш народу (прыгон) і адарваць беларусаў ад братняга расейскага народу.

Часам аўтар прабуе ўдакладніць статыстычныя даныя: ён кажа, што на тэрыторыі Беларусі знайходзілася 16 дэканатаў і 270 касьцёлаў. Беда толькі ў тым, што аўтар ня кажа, якім крытэрыям ён кіруецца ў азначэньні межаў гістарычнай Беларусі? Выглядае, што сталінскія межы для сучаснай БССР і Летувіскай ССР ёсьць для яго ненарушным канонам. Таму, калі аўтар падае сьпісак езуіцкіх калегіяў у Беларусі, дык прапускае віленскую (бач. 103).

Значыць, праца Мараша, ня гледзячы на розныя цікавыя дэталі, ня ёсьць аб'ектыўнай ані ў рэлігійных адносінах, ані ў нацыянальна-палітычных. Зусім такжа не бярэ пад увагу свойскага беларускага элементу, які праз стагодзьдзі, дзякуючы вуніі і лацінскаму каталіцтву на Беларусі, прабіваўся, як у палітычным жыцьці Вялікага Княжства Літоўскага, так і ў рэлігійным, пэўне-ж па рознаму ў розных абрадах.

*Д-ка*

---

# Прыслоўі і прымаўкі

*(Палескія)*

Дай яму яечка да шчэ й аблупленае!

Даганяючы не нацалавацься.

З аднаго дупла і холаду і цяпла.

Чортбы дзятла знаў, штоб не его нос.

Адна дзяка, як за рыбу, так за рака.

Гаварыўбы каток, да език караток.

Не будзь вельмі горкі, бо пераплююць і не будзь вельмі салодкі, бо пераклююць.

Добры госьць, да ў сераду трапіўся.

Бог ведае чы будуць у нашаго Кузьмы грошы.

Збірай, збірай грошы, а чорт на іх дзірку найдзе.

Які чорт ехаў, такі й паганяў.

Шырока едзеш вузкаю сьцежкаю.

Дзіва, што ў караля жонка прыгожая.

На тое ў каваля клешчы, штоб ён рук не папёк.

Калі добры конь, то его больш ешчэ паганяюць.

Добрыя вочы дыму не баяцца.

Як не дагледзіш ачыма, то даплаціш грашыма.

## ЛЯГЕРНЫ СЬМЕХ — ЖОРСТКІ!

Каб быў чалавек, абвінавачаньне знайдзецца!

«Трымайся злодзеяў — нашае дзела справядлівае!»

Чалавек — вораг, а добры толькі мёртвы.

Што-ж Расея? — дажджы касыя, а шчы пустыя . . .

Рука руку мые, дый абедзьве брудныя.

Далі яму тод: адсядзеў 18 і звольніўся датэрмінова.

Кажны ўздых сьмерцьцю пахне.

Шмат на сьвеце праўдаў і кажная правільная. (Камуністы) Людзей скрабуць і розуму наскрабуцца.

Маўчы й ня дыхай, бо інакш — капут!

Тапчы яго, бо цябе затопчуць!

Умры ты сяньня, а я заўтра.

Праўду даўно злавілі, хорам згвалцілі і сушыць уверх нагамі павесілі.

Сумнявацца ў подласьці другога наіўна.

Ні канца, ні краю мукам — няма дна!

Начное дзела — цёмнае.

Кажны адзінокі, як мэтэор у бездані.

Знай адно: пі віно, глядзі кіно, закусвай радыё — нічога-ж ядомага няма!

Жыцьцё ў нас як язда ў ўтабусе: ня ўсе седзяць, але ўсе дрыжаць.

Вось дзіва дык дзіва: зямлі поўна, людзей многа, а хлеба няма! — Няма й ня будзе . . .

Пакуль нос цэлы — ты яшчэ мужчына.

Не зьясі памрэш і зьясі памрэш.

Шчы вары з грыбамі, дзяржы язык за зубамі.

Усе тут або былі, або будуць.

Хто ня быў, той будзе; а хто быў, не забудзе.

Чорнага кабяля не абмыеш да бяла!

Зьмяя нат і ў простай трубе круціцца.

Адна пчала лепш, чым рой мухаў . . .

# Сучасныя жарты

## МУЖЧЫНЫ І ЖАНЧЫНЫ:

Чаму мужчыны больш кураць чым жанчыны?

— Бо маюць шмат лішняга розуму, дык хочуць яго затуманіць.

А я думаю, што больш дзеля лішняга здароўя, бо трэба-ж ад чагосьці паміраць...

І чаму мужчыны больш п'юць, чым жанчыны?

— Таму, што ўжо сказана аб курэньні. Але больш таму, каб смаглей кіраваць машынай, прапіўшы грошы!..

— О, го-го-го! Гэта, брат, смагла сказана... —

*

Чаму жанчыны затрымліваюцца пасярод тратуару, як шмат народу?

— Таму, што вельмі сьпяшацца, дык гамоняць «мінутку», але стаяць гадзіну! —

Дык няхай становяцца па баках ці па кутках!

— Але-ж бакі й куты іншымі занятыя...

*

## НАРАДЗІЎСЯ МІЛІЁННЫ Ў МЕНСКУ

— О, шчасьлівы будзе чалавек, што нарадзіўся міліённым ў Менску! Яму і слава й яму дадуць усялякія прывілеі... —

— Ну, ня веру я, каб ён стаў такім шчасьлівым!

– Чаму ты ня верыш? —

— А таму — вазьмі, калі ягоныя бацькі вераць у Бога, дык не маюць права дзіцяці пра Бога гаварыць ані маліцца: І фізычна — таксама дрэнь, калі чалавек ня можа выбраць якую хоча школу, якую жадае работу, дзе падабаецца жыць ці паехаць заграніцу. Калі не запішацца ў піянеры і ў камсамол, дык ня будзе мець ніякага ходу. А там будуць адбіраць ад яго веру — і школа, і настаўнікі, і кніжкі, і паліцыя, і войска і... А насупраць усіх, калі хто папрабуе бараніць веру ў Бога, дык таго за прапаганду судзяць і караюць. — Дык скажы сам, якое шчасьце, калі дзіця з усіх бакоў настаўляюць, каб ня быў разумным чалавекам, але каб стаў разумнай скацінай?! Бо яму кажуць, што не мае душы, а счэзьне ў сьмерці, як жывёла....

— Ці-ж гэта шчасьце ў такім краі, дзе нават і «мільённы» не дастане поўнае свабоды — веры, навукі, працы і адпачынку?..

**В. А.**

---

ЗЬМЕСТ:



---

Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14